ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№9 (126)
верасень 2021 год
CATHOLICNEWS.BY

# Беларусь мае Мітрапаліта

14 верасня, у свята Узвышэння Святога Крыжа, Папа Францішак прызначыў арцыбіскупам, Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім Юзафа Станеўскага, тытулярнага біскупа Табаікары, да гэтага часу – дапаможнага біскупа Гродзенскай дыяцэзіі.

Юзаф Станеўскі нарадзіўся 4 красавіка 1969 года ў вёсцы Заневічы недалёка ад Гродна ў сям'і Рамуальда і Гэлены Станеўскіх. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў Луцкаўлянах у 1986 годзе атрымаў атэстат аб сярэдняй адукацыі. У тым жа годзе пачаў вучобу ў ваенна-тэхнічнай школе, пасля заканчэння якой у 1987-1989 гадах служыў у войску.

У 1990 г. як адзін з першых кандыдатаў быў залічаны на вучобу ў заснаваную ў тым жа годзе біскупам Тадэвушам Кандрусевічам Вышэйшую духоўную семінарыю ў Гродне. Дыяканскае пасвячэнне атрымаў 8 снежня 1994 года, а прэзбітарскае – 17 чэрвеня 1995 года з рук біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча. Быў накіраваны на душпастырскую працу ў парафію св. Вацлава ў Ваўкавыск, дзе ў 1995-1996 гадах выконваў абавязкі вікарыя.

У 1996-1999 гадах спецыялізаваўся ў галіне кананічнага права ў Люблінскім каталіцкім універсітэце ў Польшчы, дзе атрымаў ступень магістра кананічнага права, абараніўшы працу на тэму "Працэсуальныя правы бакоў у выпадку скасавання шлюбу".

У 1999 годзе быў прызначаны прэфектам і выкладчыкам Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.

З 2000 года з'яўляўся суддзёй Біскупскага суда ў Гродне, а з красавіка 2005 года – віцэ-афіцыялам гэтага суда.

З 2001 года з'яўляўся членам Святарскай рады Гродзенскай дыяцэзіі.

У 2004-2005 навучальным годзе чытаў лекцыі ў галіне кананічнага права на курсах катэхетаў у Гродне.

З 23 чэрвеня 2005 года з'яўляўся рэктарам Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.

У 2007-2013 гадах быў адказным за душпастырскую фармацыю маладых святароў у Гродзенскай дыяцэзіі.

У 2008 годзе быў залічаны ў Калегію кансультантаў Гродзенскай дыяцэзіі. З 2009 года з'яўляўся каардынатарам душпастырства пакліканняў.

12 сакавіка 2012 года Папа Бэнэдыкт XVI прызначыў ксяндза Юзафа Станеўскага капеланам Яго Святасці.

29 лістапада 2013 года Папа Францішак прызначыў ксяндза-прэлата Юзафа Станеўскага дапаможным біскупам Гродзенскай дыяцэзіі з прысваеннем звання тытулярнага біскупа дыяцэзіі Tabaicara. 1 лютага ён атрымаў біскупскае пасвячэнне.

3 чэрвеня 2015 г. Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў Беларусі абрала біскупа Юзафа



Станеўскага сваім Генеральным сакратаром.

14 верасня 2021 года Папа Францішак прызначыў Юзафа Станеўскага арцыбіскупам, Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім.

*catholic.by*

# *Біскуп Буткевіч у Бялынічах:*
# "Маці Божая змагалася за Беларусь"

**Увечары 17 верасня на двары побач з адзінай каталіцкай святыняй у дзесяцітысячных Бялынічах – невялічкай капліцай Маці Божай Бялыніцкай – адбылася святая Імша, якую цэлебравалі каталіцкія біскупы Беларусі.**

■ **кс. Мікола Гракаў**, *тэкст*; **Віталь Палінеўскі**, *фота*
*Catholic.by*

Эўхарыстыя праходзіла на палявым алтары, зладжаным на былым агародзе колішняй прыватнай хаты, дзе ўжо больш за дзесяць гадоў моляцца бялыніцкія католікі.

Сёлета надвор'е выдалася асабліва халодным, але прысутных сагравала блізкасць Маці Божай у старадаўнім спісе цудадзейнага абраза, які спецыяльна на агульнабеларускую ўрачыстасць з нагоды 260-годдзя каранацыі Бялыніцкай іконы Багародзіцы і на знак падзякі за трыццацігоддзе адраджэння ў Беларусі касцельных струтур быў дастаўлены ў Бялынічы.

Цэлебрацыю, у якой бралі ўдзел сямёра біскупаў, тры дзясяткі святароў і каля сотні вернікаў з розных куткоў Беларусі, узначаліў Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

Перад пачаткам Эўхарыстыі яе ўдзельнікаў прывітаў Біскупскі вікарый для горада Магілёва і Магілёўскай вобласці біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB, які папрасіў кіраўніка епіскапату ўзначаліць цэлебрацыю.

"Маці Божая выбрала шматлікія месцы на нашай зямлі, і тут, у Бялынічах, мы завяршаем гадавы цыкл урачыстасцяў у Яе гонар: Будслаў, Браслаў, Лагішын, Гудагай, Гродна… На многіх іконах мы бачым Марыю з Дзіцяткам Езусам на руках. Так, як Яго, Яна туліць да сваіх грудзей кожнага з нас, і на кожным марыйным фэсце мы адчуваем Яе блізкасць, цеплыню і апеку. <…>

Дзякуючы Яе матчынаму заступніцтву Касцёл у Беларусі жыве і адраджаецца", – сказаў іерарх, дадаўшы, што адраджэнне касцельных структур – не самамэта, а сродак для асвячэння, узрастання ў цнотах і паглыблення сапраўднага хрысціянскага жыцця паводле Божых запаведзяў.

У прамоўленай гаміліі біскуп Буткевіч засяродзіўся на прачытаным на Імшы ўрыўку з Евангелля пра вяселле ў Кане Галілейскай, на якім прысутнічалі Езус і Яго Маці. Іерарх звярнуў увагу на словы Марыі: "Тое, што Ён скажа вам, зрабіце".

"Тое, што мы не прыслухоўваемся да гэтых словаў, з'яўляецца прычынай многіх праблем, грамадскай напружанасці ў нашай краіне і ў свеце", – зазначыў кіраўнік епіскапату. Ён дадаў, што ў Дзень нацыянальнага адзінства мы звяртаемся да Найсвяцейшай Панны Марыі з просьбай аб Яе матычным заступніцтве ў справе паяднання, пераадолення падзелаў і вызвалення ад нянавісці.




"Хоць сёння сітуацыя можа здавацца нам безнадзейнай, але Марыя, як у Кане Галілейскай, паказвае выйсце з кожнага безвыходнага становішча. Для гэтага неабходна, як Яна, слухаць Яе Сына Езуса і рабіць тое, што Ён нам кажа. Нават калі напачатку Ён не звяртае ўвагі на просьбу Маці: "Ці гэта Мая або Твая справа", – аднак Яна дае нам прыклад надзеі, упэўненасці ў тым, што Езус нас не пакіне.

Маці Божая змагалася за кожнае сваё дзіця, яна змагалася за Беларусь, і мы верым, што з Яе дапамогаю вырашыцца яшчэ адна пачалавечы безнадзейная справа, і ў Бялынічах зноў з'явіцца санктуарый у Яе гонар, а магчыма, знойдзецца і Яе страчаны цудадзейны абраз", – падкрэсліў біскуп Алег Буткевіч.

Завяршылася цэлебрацыя бласлаўленнем, якое Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі ўдзяліў прысутным.

# Папа Францішак не збіраецца на пенсію



**Святы Айцец абверг інсінуацыі наконт заўчаснага завяршэння свайго пантыфікату. "Я ніколі не думаў адмаўляцца", – сказаў Папа ў першым пасля ліпеньскай аперацыі інтэрв'ю.**

Размаўляючы з журналістам Радыё COPE, вяшчальнікам Канферэнцыі Біскупаў Іспаніі, Святы Айцец распавёў аб актуальных праблемах жыцця свету і Касцёла, не пазбягаючы адказаў на асабістыя пытанні.

У самым пачатку інтэрв'ю на пытанне Карласа Эрэры: "Як Вы сябе адчуваеце?", Пантыфік адказаў з усмешкай: "Яшчэ жывы". Паводле Францішка, яго "выратаваў" медбрат з медыцынскай службы Ватыкана, "чалавек з трыццацігадовым прафесійным стажам", які настаяў на аперацыі, хоць і быў варыянт курсу антыбіётыкатэрапіі. Рашэнне аказалася правільным, бо падчас аперацыі была выяўлена некратычная частка.

Змяншэнне кішэчніка не перашкаджае Пантыфіку весці "цалкам нармальны лад жыцця". Ён можа есці практычна ўсё і, прымаючы адпаведныя лекі, падтрымліваць актыўны парадак дня, які ўключае і падарожжы.

У кантэксце размовы пра стан здароўя Папа рашуча абверг інсінуацыі некаторых журналістаў наконт магчымага заўчаснага завяршэння пантыфікату. "Мне і ў галаву такое не прыйшло… Я не ведаю, адкуль у іх здагадкі, што я рыхтуюся адмовіцца!"

Дзелячыся меркаваннем пра сітуацыю ў Афганістане, Святы Айцец высока ацаніў дыпламатычныя намаганні Дзяржаўнага сакратарыята. Ён назваў кардынала П'етра Параліна "найлепшым дыпламатам, якога ён калі-небудзь сустракаў". Папа лічыць вывад амерыканскіх войскаў з Афганістана "законным", хоць у выніку рашэння "афганскі народ апынуўся пакінутым сам сабе". "Мне здаецца, не ўсе варыянты былі ўзятыя пад увагу, не хачу судзіць, але не ўсе", – адзначыў Папа Францішак.

У інтэрв'ю прагучала пытанне і пра ватыканска-кітайскія ўзаемаадносіны. "Кітай не просты, але я перакананы, што мы не павінны адмаўляцца ад дыялогу", – сказаў Папа. На яго думку, "існуе верагоднасць быць падманутым падчас дыялогу, можна дапусціць памылкі,.. але гэта спосаб ісці наперад".

У гэтым кантэксце Папа Францішак спаслаўся на канцэпцыю кардынала Агасціна Казаролі, які быў Дзяржаўным сакратаром падчас пантыфікату Яна Паўла II, і ўжо пры Яну XXIII адказваў за кантакты з Цэнтральнай Еўропай, якая знаходзілася тады пад уладай камуністаў. "Гэта былі невялікія крокі адзін за адным па наладжванні мастоў. Паволі ўдавалася атрымліваць дамоўленасці на ўзроўні дыпламатычных адносін, што ў канчатковым выніку дазваляла прызначаць новых біскупаў і клапаціцца аб верным Божым народзе. Сёння ў пэўнай ступені мы павінны ісці тым жа шляхам дыялогу ў самых канфліктных сітуацыях", – перакананы Святы Айцец.

*Кс. Аляксандр Амяльчэня,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Папа ответил на вопросы о вакцинации, однополых браках и причащении политиков

**15 сентября Папа Франциск завершил апостольскую поездку в Венгрию и Словакию. По обыкновению, из аэропорта Папа сразу же отправился в базилику Санта-Мария-Маджоре, чтобы вознести молитву благодарения перед иконой Salus Populi Romani, и только после этого вернулся в Ватикан.**

Время перелета из Братиславы в Чампино сопровождавшие Папу журналисты использовали, чтобы задать ему вопросы на актуальные темы.

Словацкий репортер обратился к Папе с вопросом о вакцинации, отметив, что она "разделила христиан в Словакии". Святейший Отец утверждает, что прививка – это акт любви, однако в епархиях на этот счет думают по-разному. "Как примирить нас по этому вопросу?" – спросил корреспондент словацкого издания.

"Все это немного странно, потому что человечество имеет целую историю дружбы с вакцинами", – ответил Папа и затем рассказал, что в Коллегии кардиналов есть "негационисты", и один из них сейчас в больнице с вирусом. "Ирония судьбы, – добавил Папа. – Не могу себе этого объяснить: некоторые говорят, что вакцины недостаточно испытаны. Нужно уточнить, что в Ватикане все вакцинированы, кроме небольшой группы, и обсуждается то, как им помочь".

Журналист из США попросил Папу высказаться по поводу недавней дискуссии о причащении политиков, одобряющих аборты.

"Я никогда не отказывал в причащении никому, и я не знаю, подходил ли кто-нибудь в подобной ситуации", – сказал Папа и упомянул об одном случае, произошедшем во время его визита в дом престарелых. Во время Мессы он спросил, кто хочет причаститься, и все подняли руку. После причастия одна старушка поблагодарила Папу и добавила, что она еврейка. "Я же ответил: Тот, Кого я тебе преподал, тоже еврей!".

"Причастие – это не награда для совершенных, причастие – это дар, подарок, присутствие Иисуса в Церкви и в общине. Те же, кто вне общины, не может причащаться, как эта еврейка. Однако Господь пожелал наградить ее без моего ведома. Вне общины находятся те, кто от нее отлучен, потому что они не крещены или отдалились".

Что касается аборта, продолжил Папа, то это убийство: делающие аборт убивают, и здесь не может быть никаких двусмысленностей: "Церковь столь сурова в этом потому, что принимать аборт – означало бы соглашаться с ежедневными убийствами".

Возвращаясь к вопросу о причащении политиков, Святейший Отец уточнил, что речь идет не о богословской, а о пастырской проблеме. Случается, что епископы занимают политическую, а не пастырскую позицию. "Необходимо быть пастырем даже для тех, кто отлучен. <…> Это дети Божьи, и они нуждаются в нашей пастырской близости, – затем пастырь все решает так, как указывает ему Святой Дух".

Итальянский журналист попросил Папу прокомментировать резолюцию из Страсбурга, призывающую Венгрию признавать однополые браки.

"Брак – это Таинство, и Церковь не имеет власти изменять Таинства, учрежденные Господом именно в таком виде. Существуют законы, имеющие целью помочь многим людям с другой сексуальной ориентацией. Важно отметить, что у государств есть возможность поддержать их с гражданской точки зрения, дать им стабильность в том, что касается наследства, здравоохранения и т.д., – это относится не только к гомосексуалистам, но и ко всем людям, которые желают объединиться. Но брак остается браком. Это не означает осуждать их. Они наши братья и сестры, мы должны их сопровождать. <…> Это не имеет ничего общего с браком как Таинством, который может быть только между мужчиной и женщиной. Иногда происходит путаница: все братья и сестры равны, Господь благ, Он хочет спасения всех, но прошу вас, не заставляйте Церковь отрекаться от своей истины. Многие люди с гомосексуальной ориентацией подходят к Таинству Покаяния, просят совета у священника, Церковь им помогает, но Таинство Брака – это другое".

*Ольга Сакун,*
*русская редакция*
*Vatican News*



# Папа Франциск отправил 15 тысяч порций мороженого заключенным двух римских тюрем

**Папа Франциск передал заключенным двух римских тюрем 15 тысяч порций мороженого, чтобы "помочь им остыть во время одного из самых жарких лет в Италии за всю историю наблюдений", передает "The Guardian" со ссылкой на офис Апостольской Элемозинарии.**

"В эти дни кардинал Конрад Краевский доставил заключенным тюрем "Regina Coeli" и "Rebibbia" (расположенным в центре и на окраине итальянской столицы) 15 тысяч штук мороженого", – говорится в сообщении ватиканской Службы Папских милостей.

В заявлении Ватикана также говорится, что офис благотворительной организации Папы этим летом "не уходил в отпуск". Вместо этого волонтеры Ватикана тратили свое время, "продолжая посвящать себя, среди прочего, двум из семи дел милосердия: посещению узников и утешению страждущих".

Это пожертвование было одним из нескольких "маленьких евангельских жестов", сделанных летом, "чтобы помочь и дать надежду тысячам людей в тюрьмах Рима", – говорится в коммюнике.

*sib-catholic.ru*

# Касцёл у Беларусі асуджае публікацыю ў газеце “Мінская праўда” і расцэньвае як распальванне варожасці

**Па даручэнні Старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскупа Віцебскага Алега Буткевіча пазіцыю беларускага каталіцкага епіскапату адносна публікацыі ў газеце “Мінская праўда” (№ 68 ад 7 верасня 2021 года) выказаў 7 верасня Старшыня Камісіі па справах каталіцкай адукацыі і катэхезы пры ККББ біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB.**

Усёняшнім нумары газеты “Мінская праўда” (№ 68 ад 7 верасня 2021 года), заснавальнікам якой з’яўляецца Мінскі абласны выканаўчы камітэт, на першай старонцы апублікавана карыкатура Антона Астроўскага. На малюнку – выява каталіцкіх святароў у характэрным адзенні, свастыкі, бел-чырвона-белага сцяга, дапоўненая словамі беларускага хрысціянскага гімна “Магутны Божа” на фоне сказонай рэплікі абраза Расіцкіх мучанікаў – святароў, якія падчас Другой сусветнай вайны разам са сваімі вернікамі мужна прынялі смерць ад рук нацысцкіх карнікаў. Малюнак падпісаны на рускай мове: “Мутация веры. Кресты бывают разные…”

Рыма-Каталіцкі Касцёл у Беларусі адназначна асуджае згаданую публікацыю ў газеце “Мінская праўда” і расцэньвае яе як распальванне варожасці ў беларускім грамадстве да Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, асабліва да яго іерархаў і прэзбітараў. Дадзеная публікацыя наносіць вялікую абразу рэлігійным пачуццям вернікаў Каталіцкага Касцёла. Карыкатура, на якой крыж ператвараецца ў свастыку, а таксама свастыка, змешчаная замест крыжа, абражае не толькі святароў, але ў першую чаргу зневажае Крыж Хрыста Збаўцы, Які на ім аддаў жыццё за збаўленне людзей. На думку каталіцкіх біскупаў Беларусі, гэтая публікацыя нясе маральную шкоду ўсім хрысціянам розных канфесій. Публікацыя таксама ўскосна абвінавачвае ўсё каталіцкае духавенства ў меркаванай прыхільнасці да фашызму і нацызму, што з’яўляецца свядомым і зламысным скажэннем праўды, паклёпам і абразай.

Біскупы Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Беларусі спадзяюцца, што адпаведныя органы дзяржаўнай улады дадуць належную прававую ацэнку дадзенай карыкатуры і публікацыі ў газеце “Мінская праўда”, змешчанай у № 68 ад 7 верасня 2021 года, незадоўга да святкавання Дня народнага адзінства.

*catholic.by*

## Беларускія ўлады адрэагавалі на публікацыю ў газеце “Мінская праўда”

**Апарат Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей адрэагаваў на публікацыю ў газеце “Мінская праўда”, дзе змяшчалася карыкатурная выява каталіцкіх святароў.**

Улісце ад 9 верасня 2021 г. на імя біскупа Алега Буткевіча, Старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх біскупаў у Беларусі, Упаўнаважаны А.А. Румак падкрэсліў, што гэтая публікацыя не адлюстроўвае афіцыйную пазіцыю дзяржавы ў адносінах да Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Беларусі. На думку спадара Румака, матэрыялы, апублікаваныя ў газеце “Мінская праўда” ад 7 верасня 2021 г., не спрыяюць падтрыманню міжканфесійнага міру і згоды ў краіне. Атаясамленне ж аўтарам артыкула асабістай ацэнкі дзейнасці асобных каталіцкіх святароў з усім Рыма-Каталіцкім Касцёлам у Беларусі з’яўляюцца непрымальным. Спадар Румак паведаміў у лісце, што Міністэрства інфармацыі пісьмова апавясціла Мінскае абласное ўнітарнае прадпрыемства “Інфармацыйнае агенцтва “Мінская праўда” аб недапушчальнасці падобнага кшталту публікацый.

*Курыя Віцебскай дыяцэзіі*

# Юбілейная школа міністрантаў у Верхнядзвінску

**Юбілейная пятая школа міністрантаў прайшла ў парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Верхнядзвінску напрыканцы лета. Традыцыйна тры дні хлопцы мелі магчымасць аднавіць і ўзбагаціць свае веды ў тэорыі і практыцы літургіні, супольна памаліцца падчас святой Імшы і адарацыі Найсвяцейшага Сакрамента, а таксама пабавіць час, гуляючы ў настольны тэніс, футбол і «Каркассон».**

Асаблівасцю сёлетняй сустрэчы стаў курс цесляра, на якім хлопцы самастойна рабілі ружанцы. Спачатку выточвалі драўляныя пацеркі на станку, потым выпільвалі электралобзікам крыжыкі, а пасля шліфоўкі звязвалі ўсе дэталі ў паўнавартасную «таямнічку». Гатовыя ружанцы адразу ж былі выкарыстаны на малітве падчас адарацыі. Праца з дрэвам уласнымі рукамі дае магчымасць развіваць творчыя здольнасці і набываць навыкі, якія спатрэбяцца ў дарослым жыцці.



Трэці дзень школы служыцеляў алтара стаў незвычайным, бо разам з пробашчам Верхнядзвінскай парафіі кс. Аляксандрам Грыцкевічам хлопцы адправіліся ў Ветрына на ўрачыстасць 20-годдзя заснавання парафіі бласлаўлёнага Юрыя Матулевіча. Там міністранты змаглі прымяніць усе атрыманыя веды па літургіцы і служыць каля алтара біскупу Алегу Буткевічу, «аздабляючы» гармоніяй і парадкам святую Імшу.

Імкліва ляціць час. Прагледаючы фотаздымкі ад самай першай школы міністрантаў у 2017 і да сёлетняй, 2021 года, лёгка заўважыць, як хутка растуць нашы парафіяльныя дзеці. Як сталеюць, набываюць веды і ўмацоўваюцца ў веры. Няхай жа Найсвяцейшая Панна Марыя і надалей вядзе іх шляхам любові да Бога і да Касцёла, а мы будзем маліцца, каб яны знайшлі дарогу свайго жыццёвага паклікання.

*кс. Аляксандр Грыцкевіч*



# На скейтбордзе – да Бога: незвычайны інструмент аднаго францішканіна для евангелізацыі

**Святар на скейтбордзе з эўхарыстычнымі сімваламі – келіх і Баранак Божы – прыцягнуў увагу сацыяльных сетак, бо гэты від спорту зноў набыў папулярнасць пасля Алімпійскіх гульняў у Токіа, куды ён быў уключаны.**

Па сутнасці менавіта Алімпійскія гульні натхнілі 45-гадовага айца Джона Пола Зэлера вярнуцца да скейтбордынгу пасля 25-гадовага перапынку.

Францішканская місіянеры Вечнага Слова апублікавалі на сваім канале YouTube відэа, у якім айцец Джон тлумачыць, чаму ён гэтым займаецца.

“У дзяцінстве я катаўся на скейтбордзе. Пяць гадоў! Я правёў пяць гадоў жыцця на скейтбордзе, ад сёмага класа да сярэдняй школы. Я катаўся па тры, чатыры ці нават больш гадзін у дзень”.

Айцец Джон кажа, што яго сабраты-францішкане актыўна сачылі за Алімпіядай, і што ўключэнне скейтбордынгу ў алімпійскую праграму стала для яго вялікай радасцю.

“Я быў проста натхнёны. Захацеў зноў пачаць катацца на скейтбордзе. Я занадта стары для гэтага, мне 45 гадоў, і я не ў той форме, у якой быў. Але падумаў: я не абавязкова павінен быць такім, як у дзяцінстве. Я ўсё яшчэ магу катацца на коньках і атрымліваць асалоду ад гэтага”.

Айцец Зэлер звярнуўся ў Motherboards – кампанію, якая спецыялізуецца на скейтбордах з каталіцкім дызайнам, і там прапанавалі зрабіць яму падарунак. Дызайн гэтага скейтборда заслугоўвае ўвагі сам па сабе.

Калі святар быў падлеткам, яго скейтборды выглядалі зусім інакш. “Калі я катаўся на скейтбордзе, на іх былі намаляваныя змеі, чэрапы і іншыя падобныя рэчы. Мая мама проста ненавідзела гэта з вялікай літары “Н”!” Ён кажа, дадаючы з усмешкай, што новы скейтборд з выявай Ягня і Эўхарыстыі – кансэкраванай Гостыі над келіхам – прымусіць яе ганарыцца.

Менавіта “каталіцкі” выгляд скейтборда робіць яго незвычайным інструментам апостальства і евангелізацыі. Цікавасць людзей да манаха і выявы на яго скейтбордзе ствараюць магчымасці пагаварыць з імі пра Езуса, Баранка Божага, які бярэ на сябе грахі свету, і пра дасканалую гармонію паміж кансэкраваным жыццём і здаровай асалодай ад самога жыцця, якое ёсць дарам ад Бога.

“Скейтбордынг можна выкарыстоўваць, каб паказаць маладым людзям, як жыць Евангеллем, нават у спорце і ў вольны час”, – сказаў айцец Джон.

Францішканін-скейтбардыст належыць да Місіянераў Вечнага Слова з 2013 года. Адно з яго апостальстваў – гэта евангелізацыя праз сродкі масавай інфармацыі. Ён працуе ў найбуйнейшай у свеце каталіцкай тэлевізійнай сетцы EWTN, заснаванай Маці Анжалікай ад Звеставання.

***По матэрыялах credo.pro***
***Пераклад Марыны Сінкевіч***

*Паглядзець відэа пра святара на скейтбордзе можна, адсканаваўшы QR-код:*



# Спробы стварэння дамініканскай акадэміі

**У мінулым нумары “Каталіцкага Весніка” быў змешчаны матэрыял пра першую вышэйшую навучальную установу ў Беларусі – Полацкую езуіцкую акадэмію. У дадзеным артыкуле паспрабуем даведацца пра тое, ці рабіла рымска-каталіцкая царква спробы захаваць свае пазіцыі ў сферы вышэйшай адукацыі ў Беларусі пасля 1820 г.**

Такім чынам, у 1820 г. езуітам было загадана пакінуць межы Расійскай імперыі. Аднак усе іншыя ордэны яшчэ працягвалі сваю дзейнасць. Ордэн прапаведнікаў (дамініканцы) у той час (першая палова XIX ст.) быў найбуйнейшым: як па колькасці кляштараў, так і па колькасці духавенства. Адпаведна, хутчэй за ўсё, яны марылі пра правы езуітаў у галіне адукацыі – незалежнасці ад Віленскага ўніверсітэта і магчымасці праводзіць уласную адукацыйную палітыку, – то бок, пра тыя прывілеі, якія мела раней Таварыства Езуса. Пасля выгнання езуітаў у міністэрстве духоўных спраў і народнай асветы ўзнікла пытанне: што рабіць з навучальнымі ўстановамі, якія ўтрымліваліся Таварыствам? У красавіку 1820 г. міністр народнай асветы А. Галіцын накіраваў да Мітрапаліта С. Богуш-Сестранцэвіча ліст, у якім цікавіўся, якія ордэны могуць замяніць езуітаў у іх школах і на настаўніцкіх пасадах.

У лісце ад 21 чэрвеня 1820 г. значылася: “От 30 минувшего апреля Его Сиятельство господин Министр относился к вашему высокопреосвященству, спрашивая мнения вашего, могут ли иезуиты быть заменены миссионерами и нет ли в России других орденов, которым бы можно было вверить воспитание Римско-Католического юношества. Ваше Высокопреосвященство (...) находите одних доминиканов и пиаров способными для замещения иезуитов по учебной части”.

Ён жа адзначаў у лісце ад 11 жніўня 1820 г.: “Ваше Высокопреосвященство в отношении от 24 июля сообщили мне своё мнение о замещении училищ, предполагаемых Виленским университетом на место упразднившихся после иезуитов, назначая поручить Высшее училище в Полоцке пиарам, Оршанское уездное училище и пансион доминиканам Литовской провинции, Мстиславское училище и пансион Бернардинам, Витебскую гимназию и пансион Базилианам Литовской провинции”.

Першапачаткова Полацкае вышэйшае вучылішча планавалася перадаць у веданне дамініканцаў Літоўскай правінцыі. Аднак А. Галіцын вырашыў, што найлепшым выйсцем будзе вучылішча ў Полацку перадаць піярам, а дамініканскаму Забельскаму вучылішчу надаць аднолькавыя з Полацкім вучылішчам правы і прывілеі. Прапанова аб прыняцці піярамі вучылішча ў Полацку была ўспрынята кіраўніцтвам ордэна без імпэту, паколькі Літоўская правінцыя ордэна мела нестабільную фінансавую сітуацыю і ўтрымлівала яшчэ тры вучылішчы. Але правінцыял піяраў пагаджаўся на ўтрыманне азначанай навучальнай установы, “калі кіраўніцтву будзе заўгодна”.

Верагодным падаецца, што атрыманне паезуіцкага вучылішча ў Полацку было ў планах дамініканцаў, і, калі б дамініканцам удалося яго атрымаць, яны б прыклалі намаганні да пераводу яго на вышэйшую ступень. У той час правінцыялам Літоўскай правінцыі ордэна прапаведнікаў быў Ф. Цяцерскі. Менавіта з ім звязана спроба заснаваць новую каталіцкую акадэмію.

Кім жа быў гэты чалавек? Звесткі пра месца нараджэння Ф. Цяцерскага супярэчлівыя. Некаторыя гісторыкі называюць Вармію, іншыя – в. Валынцы сучаснага Верхнядзвінскага раёна. Згодныя гісторыкі толькі з датай нараджэння Фаўста – 1760 г. Да 1775 г. Ф. Цяцерскі навучаўся ў вармінскіх школах, пасля іх заканчэння ўступіў у ордэн дамініканцаў. Першыя шлюбы Ф. Цяцерскі злажыў у віленскім кляштары дамініканцаў, дзе пасля і навучаўся на генеральных студыях Літоўскай правінцыі. Генеральныя студыі мелі права надавання навуковых ступеняў, а ў галіне філасофіі і тэалогіі давалі адукацыю ўніверсітэцкага ўзроўню. У 1784 г. Ф. Цяцерскі атрымаў святарскае пасвячэнне. Пасля гэтага, у 1785 г., вучыўся ў Галоўнай Літоўскай школе (былая Віленская акадэмія).



Касцёл Святога Юрыя і кляштар дамініканаў. Малюнак Н. Орды, 1875—76 гг.

Праўдападобна, яшчэ падчас навучання на студыях, у 1779 г., Ф. Цяцерскі распачаў сваю педагагічную дзейнасць у якасці выкладчыка-стажора ў Мерацкай падакруговай школе. Пазней Ф. Цяцерскі атрымаў пасаду прэфекта школы. Да 1790 г. Ф. Цяцерскі змяніў пасады настаўніка і прэфекта ў некалькіх школах, і паўсюль яго педагагічныя здольнасці ацэньваліся толькі станоўча.

У 1790 г. Ф. Цяцерскі здаў экзамен, які даваў яму права займаць у ордэне пасаду лектара – выкладчыка філасофіі і тэалогіі для маладых манахаў. Пасада абавязвала і да навуковай дзейнасці – напісання трактатаў, падручнікаў і г.д. У 1793 г. за свае заслугі Ф. Цяцерскі быў узнагароджаны каралём Станіславам Аўгустам залатым медалём з надпісам “Merentibus”.

З 1795 г. Ф. Цяцерскі выконваў абавязкі пракуратара Літоўскай правінцыі ордэна прапаведнікаў. Святар таксама быў заангажаваны ў палітычную дзейнасць, падтрымліваючы сувязь з паўстанцамі ў 1794 г. У 1797 г. Ф. Цяцерскі ўваходзіў у склад т.зв. Віленскай асацыяцыі, дзейнасць якой была пазней раскрытая. Пра яго ў судовай справе адзначана: “Доминиканского монастыря в Вильне приор и всех Доминиканских в Литве монастырей прокуратор Фауст Цецерский, имеет от роду 40 лет. Вторым был членом в Виленской ассоциации и ввел в оную своего племянника подпоручика Цецерского. Своеручно писал акт Виленского восстания и советами своими подкреплял предположения и начинания Ассоциации”. За удзел у ёй Ф. Цяцерскага прысудзілі да катаргі, кляймення і рвання ноздраў, але Павел I змякчыў прысуд на катаргу ў Нерчынскіх шахтах. Праз чатыры гады Ф. Цяцерскага памілаваў Аляксандр I, і ён вярнуўся на радзіму. Яшчэ падчас ссылкі, нягледзячы на афіцыйную забарону, але з маўклівай згоды мясцовага губернатара Ф. Цяцерскі займаўся педагагічнай дзейнасцю (навучаў дзяцей ссыльных).

Са ссылкі Ф. Цяцерскі вярнуўся ў 1802 г. і адразу накіраваўся ў кляштар дамініканцаў ў Забялах (Валынцах). Менавіта там у перыяд з 1804 па 1810 гг. Ф. Цяцерскі выконваў функцыі прыёра кляштара. Пры кляштары з 1731 да 1844 гг. дзейнічалі студыі філасофіі і навіцыят. Імператарскім указам ад 16 сакавіка 1844 г. былі закрытыя ўсе манаскія студыі ў імперыі, а іх навучэнцам “прапанавалі” працягнуць навучанне ў дыяцэзіяльных семінарыях.



Агульны выгляд, 1941—44 гг.

Школа для дзяцей і моладзі пры кляштары, згодна з жаданнем фундатара, павінна была існаваць практычна ад моманту фундацыі, але дакладную дату распачацця працы вызначыць цяжка. Магчыма, сваю дзейнасць школа распачала прыкладна ў той жа час, што і манаскія студыі, г.зн. у 1731 г., паколькі да таго часу цягнуліся будаўнічыя працы. У 1803 г., пасля стварэння Віленскай навучальнай акругі, Забяльская школа ўвайшла ў яе межы. Навучальная ўстанова атрымала статус павятовага вучылішча, але шырокая праграма выкладання ў ім дазваляла залічваць яго да павятовага вучылішча з гімназіяльным курсам навук. Пры школе працаваў тэатр, дзе ажыццяўляліся пастаноўкі, аўтарамі якіх з’яўляліся выкладчыкі калегіума. Тэатральныя пастаноўкі выкарыстоўваліся як форма і метад навучання.

> **“У шэрагу школьных спектакляў гучала беларуская мова, што з’яўлялася несумненнай заслугай настаўнікаў.”**

Ф. Цяцерскі працаваў на пасадзе настаўніка ў гэтай школе толькі ў 1809–1810 гг. Пасля заканчэння другой кадэнцыі на пасадзе прыёра Забельскага кляштара Ф. Цяцерскі зноў накіраваўся ў Вільню, дзе быў абраны на пасаду рэгенса студый. 16 снежня 1817 г. на капітуле Літоўскай правінцыі ордэна прапаведнікаў Ф. Цяцерскі быў абраны правінцыялам. Свае функцыі ён выконваў на працягу двух трохгадовых кадэнцый, да 1824 г.

Верагодна, менавіта Ф. Цяцерскі першапачаткова меў у планах стварэнне дамініканскай акадэміі першапачаткова ў Полацку, дзе таксама існаваў кляштар дамініканцаў. Будынкі для акадэміі планавалася выкарыстаць паезуіцкія. На той момант дамініканцы мелі для заснавання вышэйшай навучальнай установы ўсе патрэбныя рэсурсы: дастатковую колькасць адпаведна падрыхтаваных манахаў, значную колькасць манастыроў, фінансавых сродкаў і неабходную падтрымку мясцовага насельніцтва. Гэты праект правінцыял дамініканцаў прадставіў міністру духоўных спраў і народнай адукацыі А. Галіцыну з зазначэннем, што пры такім раскладзе Забельскае вучылішча будзе пераведзена ў Полацк. А

> **“Забельскае вучылішча дамініканцаў у той час было найбуйнейшай сярэдняй навучальнай установай у Віцебскай губерні”**

і найбольшай свецкай школай з тых, якія ўтрымлівалі дамініканцы ў Расійскай імперыі.

Уплывовасць ордэна і манахаў забельскага кляштара сярод мясцовай шляхты паўплывала на ўзнікненне ў яе асяроддзі жадання падтрымаць Ф. Цяцерскага ў яго намаганнях па заснаванні акадэміі, якая б належала дамініканскаму ордэну. 10 жніўня 1820 г. на пасяджэнні шляхты Дрызенскага павета павета было вырашана хадайнічаць перад імператарам аб адкрыцці ў Забялах акадэміі і друкарні. Матэрыялы пасяджэння былі перасланыя міністру народнай адукацыі князю А. Галіцыну. Копія пратакола распачыналася хадайніцтвам, у якім адзначалася, што *“Дворянство Дризненского Повета на собрании 10 истёкшего Августа в городе Дризе, учинив Журнальное постановление на предмет доставления вящей выгоды и пользы в просвещении Юношества, особливо сего Повета, возложило на меня обязанность таковое постановление довесть до Сведения Вашего Сиятельства, с испрошением Его представительства пред Августейшим Го-*

⇒

# ў Забялах: асобы, падзеі, дакументы

⇐ *сударем Императором, на исходатайствование Высочайшего Соизволения для Ордена Ксендзов Доминиканов Забяльских, по силе которого могли бы они удостоиться привилегиею Академии и удержать при Монастыре Типографию. Выполняя возложенную на меня обязанность, я считаю величайшим моим щастием, иметь честь представить Копию таково-го Журнала Вашему Сиятельству и предать Начальственному благоуважанию изложенное обстоятельство, пребыть навсегда с глубочайшим высокопочитанием".*

З просьбай аб стварэнні акадэміі 30 лістапада 1821 г. Ф. Цяцерскі накіраваў А. Галіцыну ліст з матывацыяй жадання адкрыцця акадэміі, у якім адзначалася:

*"Устав Доминиканского ордена поставляет главнейшею и существеннейшему оному обязанностию, быть не токмо полезным Церкви и Государствам, в коих сей Орден существует, но даже с совершенною ревностию соображаться с родом служений, к коим взываем бы был сей Орден, по званию своему, седьмое уже столетие даёт непрерывные доводы в таковой сообразности и деятельности на пользу общую.*

*По уничтожении Иезуитского Ордена в Княжестве Литовском Правительство воззвало Доминиканов к занятию некоторых училищ. Они не укоснили с ревностным поспешием и усердием исполнить намерение Правительства.*

*Для вящего же образования Монашествующего своего юношества к заступлению учительских должностей Литовской Провинции монастыри устроили в Гродне иждивением своим кабинеты: физической и естественной истории, химическую лабораторию и значительную Библиотеку. Там монашествующее юношество обязано было усовершаться во всех науках.*

*Учебные упражнения и испытания не однократно были производимы в присутствии последняго покойного Короля Польского и Первейших в Государстве особ. В ознаменование же успехов обучающихся и способностей учащих Монахов, жалованы были сим Королём золотые медали, а именно Сивицкому, Кореневскому и Войцевичу.*

*В последствии времени, когда Литовские провинции присоединились к Российской Империи, Литовские Доминикане содержали не токмо прежде вверенные им училища, но приняли и иные по поручению Правительства, как то: в Гродне, Новогрудке, Несвиже и Кальварии. Все сии училища они содержат доселе в достообразном устройстве и порядке, в чем свидетельствуют Акты Визитаторов, присылаемых каждогодно от Виленского университета.*

*Ныне, когда милостивая защита мудрого Правительства упрочила навсегда Забяльскому Доминиканскому Монастырю фундуш, состоящий в Белоруссии, Витебской губернии, в Дризенском уезде. Доминикане, движимы будучи чувствами благодарности и соревнования к углублению на пользу Отечества (...) услуг, в образовании путем просвещения верноподданных Престолу и способных к исполнению разных государственных обязанностей, приемлют смелость через своего Провинцияла просить всепокорнейше об исходатайствовании дозволения, основать в помянутом Забяльском Монастыре Академию на правилах, кои при сем честь имею изложить на благоразсмотрение".*


Інтэр'ер касцёла, 1913 г.

Да ліста быў далучаны праект Статута будучай навучальнай установы. Паводле кс. Ф. Цяцерскага, акадэмія павінна была мець тры факультэты: тэалагічны, філасофіі і прыгожых навук і моўны.

Навучанне на тэалагічным факультэце, на думку правінцыяла, ахоплівала б дагматычную і маральную тэалогію, святое Пісанне, кананічнае права, гісторыю касцёла і прыкладную геаграфію. На філасофскім факультэце планавалася выкладаць логіку, метафізіку, этыку, палітычную эканомію разам са статыстыкай, народнае права, усеагульную гісторыю, сферычную матэматыку, трыганаметрыю, канічныя сячэнні, правілы дыферэнцыяльнага і інтэгральнага лічэння, механіку, астраномію, цывільную і ваенную архітэктуру, тэарэтычную і практычную фізіку, хімію, заалогію, батаніку і мінералогію. Моўны факультэт, па задумцы Ф. Цяцерскага, павінен быў даць адукацыю ў галіне грэцкай, габрэйскай, рускай, французскай, нямецкай і польскай моў і літаратур.

Кіраванне акадэміяй павінна было складацца з рэктара, дырэктара і яго памочніка. Пасаду рэктара акадэміі павінен быў займаць прыёр Забельскага кляштара. На гэтую пасаду яго б абірала супольнасць кляштара, а абранне зацвярджалася б Правінцыялам. Непасрэднае кіраўніцтва навучальнай установай павінны былі ажыццяўляць дырэктар акадэміі і яго намеснік.

На кожным з факультэтаў прадугледжвалася дакладная лічба выкладчыкаў. На тэалагічным факультэце – тры прафесары, на філасофскім і моўным – па шэсць. Адзін з прафесараў на кожным факультэце прызначаўся дэканам. У дапамогу навучанню прадугледжвалася бібліятэка забельскага кляштара і навуковыя прылады. Адначасова Ф. Цяцерскі прасіў пра шэраг прывілеяў для ордэна і навучальнай установы. Так, наследуючы прывілеі езуітаў, дамініканец жадаў незалежнасці акадэміі ад універсітэтаў, магчымасці прысуджаць навуковыя ступені як манахам, так і свецкім людзям, каторыя скончылі навучанне. Адначасова Ф. Цяцерскі прасіў аб дазволе адкрыць пры Забельскай акадэміі друкарню пад яе цэнзурай.

Пасля атрымання лістоў як ад дваранства, так і ад Ф. Цяцерскага ў міністэрстве народнай асветы таксама распачалі працэдуру па вырашэнні пастаўленага пытання.


Крыж на месцы касцёла

Разгляд справы зацягнуўся на некалькі гадоў. Спачатку прапановы і хадайніцтвы Ф. Цяцерскага былі перасланыя ў савет Віленскага ўніверсітэта. Толькі 16 жніўня 1827 г. савет Віленскага ўніверсітэта вынес рашэнне: передача вышэйшай навучальнай установы ў веданне каталіцкаму манаскаму духавенству з'яўляецца немагчымай, што адлюстравана ў праекце пераўтварэння беларускіх вучылішч. Савет універсітэта заўважыў у стараннях Ф. Цяцерскага жаданне ўтрымліваць акадэмію выключна для ўласнай карысці (*"единственно для личных видов, дабы устранить зависимость Доминиканского ордена от Виленского университета и не обращаться туда для получения учёных степеней"*), а не з мэтай даваць адукацыю свецкім асобам. Акрамя гэтага, савет звярнуў увагу на няўменне Ф. Цяцерскага раздзяляць навукі, пра што, на іх думку, сведчыла жаданне правінцыяла стварыць асобны моўны факультэт. На пасяджэннях сходу Камітэта ўладкавання навучальных устаноў пасля нарады з папячыцелем Санкт-Пецярбургскай навучальнай акругі, а таксама карыстаючыся рашэннем Імператара пра паступовую ліквідацыю духоўных вучылішч для свецкіх, было вырашана не дазваляць дамініканцам заснаванне акадэміі.

У выпісцы з журнала 62 і 63 сходаў Камітэта ўладкаванняў навучальных устаноў ад 1 і 12 верасня 1828 г. было адзначана:

*"1. Относительно требований Доминиканов преобразовать содержимую или Забяльскую гимназию в высшее училище с тем, чтобы оно не зависело от Университета, а только от Орденского начальства, Комиссия, согласно с мнением Попечителя Ст. Петербургского округа, полагает, что сего допустить вовсе невозможно. Комитет устройства учебных заведений, по внимательному соображению всех обстоятельств, прикосновенных к делу о преобразовании Белорусских училищ, и приняв к непосредственному исполнению Высочайшую Государя Императора Волю относительно к постепенному уничтожению Духовных училищ для светских людей в Белоруссии, находит:*

*5) Комитет совершенно соглашается с заключением Комиссии, что содержимую Доминиканами Забяльскую гимназию не следует обращать, по желанию их, в высшее Училище (...).*

*Дело сие, по положению Комитета 28 июня сего года препровождено было для соображений в Комиссию, рассматривавшую проект преобразования Белорусских училищ, которая нашла, что желание Доминиканов не может быть исполнено. Таковое мнение Комиссии одобрено Комитетом устройства учебных заведений, в 12 день минувшего сентября месяца, и доведено до Высочайшего сведения.*

*Правитель дел кн. Ширинский-Шихматов*

*30 октября 1828 г.*

*В Деп.Нар.Просв."*

У той час Ф. Цяцерскі быў ужо прыёрам папорцкага кляштара. Адначасова выконваў функцыі візітатара школаў і не быў моцна заангажаваны ў справу адкрыцця новай ВНУ. У выніку намаганні дамініканцаў па стварэнні на беларускіх землях акадэміі дамініканскага ордэна не былі рэалізаваныя. Сярод прычын, якія паўплывалі на адмоўнае рашэнне па гэтым пытанні, неабходна назваць агульную тэндэнцыю развіцця сістэмы адукацыі ў Расійскай імперыі ў 20-я гг. XIX ст., калі адкрыццё новых каталіцкіх школ для свецкіх не дазвалялася.

Кажуць, гісторыя не ведае ўмоўнага ладу. Але калі дазволіць сабе пафантазіяваць, можна ўявіць, што калі б праект дамініканцаў і кс. Ф. Цяцерскага быў рэалізаваны, то акадэмія распачала б сваю дзейнасць. У сваю чаргу, гэта адыграла б важную ролю ў развіцці адукацыйнай справы на беларускіх землях. Пераняцце традыцый Забельскага дамініканскага калегіума з вялікай доляй верагоднасці паспрыяла б у развіцці беларускай культуры.

*Паводле матэрыялаў Расійскага гістарычнага архіва і навуковых публікацый*

***Раісы Зянюк***

# НОВЫЯ СІНАНІМІЧНЫЯ ПАРЫ Ў СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

*Працяг. Пачатак – у мінулым нумары*

**У папярэднім нумары мы разгледзелі сінанімічныя пары, дзе адзін з кампанентаў – неалагізм. Гэта значыць, слова, якое пакуль яшчэ мае адценне навізны ў нашай мове, хоць і ўжываецца дастаткова часта, найперш у сродках масавай інфармацыі.**

*Нагадаем, што гаворка ішла пра сінанімічныя лексемы* ***каляска – вазок****,* ***узрыўчатка – выбухоўка****,* ***гасцініца – гатэль****,* ***забастоўка – страйк****. Сёння мы прыгадаем іншыя сінанімічныя пары, якія таксама характарызуюцца досыць высокай прадуктыўнасцю ў сучаснай мове.*

Так, па сутнасці з аднолькавай частотнасцю і ў вуснай камунікацыі, і ў публіцыстычным тэксце ўжываюцца назоўнікі **веласіпед** і **ровар**: ***Вела****таксі (таксі-****ровар****) нярэдка называюць удасканаленымі рыкшамі* (Наша ніва, 15.06.11); *Скралі новы* ***веласіпед*** *коштам каля мільёна рублёў у 38-гадовай медсястры. А ў Баранавічах жанчына пакінула свой* ***ровар*** *каля крамы.., выйшла з пакупкамі – а ехаць няма на чым* (Звязда, 29.06.11). ***Вела****дарожка без дарожкі для* ***ровараў*** (Наша ніва, 02.11.11); *Частку дарогі да Будслава Тадэвуш Кандрусевіч адолеў на* ***ровары*** *разам з мінскай* ***веласіпеднай*** *пілігрымкай* (Наша ніва, 11.07.12); *У Віцебску не адбылася запланаваная* ***роварная*** *экскурсія па гістарычных месцах горада... Арганізатар* ***вела****прабегу распавёў, што дагэтуль такія экскурсіі ладзіліся двойчы* (Народная воля, 13.09.13). Назоўнік *ровар* не падаецца пакуль у акадэмічных перакладных слоўніках, а Тлумачальны слоўнік беларускай мовы (ТСБМ) фіксуе гэтую лексему з пазнакай *абл.* (Т.4, с. 710). Але на пачатку XXI стагоддзя слова істотна пашырылася ва ўжыванні. Яго падае “Арфаграфічны слоўнік беларускай мовы” (аўтары – А. Баршчэўская і Л. Баршчэўскі, Мінск, 2010, с. 397) і акадэмічны “Слоўнік беларускай мовы” (Мінск, 2012, с. 722). Фіксуецца згаданы назоўнік і ў мастацкіх тэкстах: *Вецер. Прывёз хлапец на* ***ровары*** */ Курэй і мёду збан* (Р. Барадулін); *На каштане лісце шуміць, быццам* ***ровар*** *едзе па асфальце* (У.Сцяпан). Пры паралельным існаванні дзвюх сінанімічных лексем варыянт *ровар* мае ўсё ж пэўную перавагу: усяго два склады, карацейшы ў параўнанні з назоўнікам *веласіпед*, а гэта значыць, што дзейнічае прынцып моўнай эканоміі. Варта дадаць, што ў заходніх рэгіёнах Беларусі, у тым ліку і на Віцебшчыне, назоўнік *ровар* прадуктыўна ўжываецца ўжо каля ста гадоў і паводле частотнасці выкарыстання значна апярэджвае лексему *веласіпед*. Тым больш што ёсць і слова *ваварыст,* спалучэнне *роварная дарожка*. Слова *ровар* стала ўжо неад’емным фактам сучаснай вуснай і пісьмовай камунікацыі. Можна меркаваць, што ў падобных выпадках дзейнічае прынцып замяшчэння, калі ў кантэксце семантычныя адрозненні паміж словамі нівелююцца, што дазваляе пазбегнуць паўтораў і актуалізаваць новыя стылістычныя рэсурсы.

Яшчэ адна сінанімічная пара – **імпрэза** і **мерапрыемства**. Што праўда, часам тыя, хто карыстаецца традыцыйна беларускай мовай, дапускаюць памылку пры ўжыванні згаданых слоў. Справа ў тым, што ў асобных кантэкстах немагчымая іх узаемазамена, гэта значыць, што тоеснасць значэння гэтым словам неўласцівая. Так, напрыклад, мы ж не скажам, што *Праводзілі* ***імпрэзы*** *па азеляненні тэрыторыі*. Тут падыходзіць якраз словаформа *мерапрыемствы*. Але калі гаворка ідзе пра нешта ўрачыстае, святочнае, то сінанімічны патэнцыял названага назоўніка актуалізуецца ў поўнай меры: *Вельмі пранізлівым атрымаўся фінал афіцыйнай часткі* ***імпрэзы****, калі выступоўцы раптам укленчылі...* ***Мерапрыемства*** *скончылася вясёлым салютам* (Віцебскі праспект, 16.09.10); *Сардэчна дзякуем літаратарам... за ўдзел у* ***імпрэзе****. Бо падобныя* ***мерапрыемствы*** *сапраўды яднаюць усіх прыхільнікаў прыгожага пісьменства...* (Наша слова, 29.12.10); *У бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася* ***імпрэза*** *ў рамках святкавання 100-годдзя беларускай паэткі Ларысы Геніюш, што цягам усяго году шэрагам* ***мерапрыемстваў*** *і падзей святкуецца па ўсёй Беларусі* (Наша слова, 10.11.10); *Напярэдадні Дня абароны роднай мовы па ўсёй Беларусі праходзяць адмысловыя* ***мерапрыемствы****, прысвечаныя гэтаму святу. У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа ў Мінску адбылася* ***імпрэза*** *з удзелам Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча* (Звязда, 19.02.11). Заўважым, што выбар той ці іншай лексічнай адзінкі залежыць не ў апошнюю чаргу ад унутраных адчуванняў моўніка, ад сфарміраванага ў яго вобраза і асацыяцый, якія




выклікае гэты вобраз у пэўных сітуацыях. І, несумненна, вялікае значэнне мае моўны густ чалавека. Зразумела, што лексема *імпрэза* стварае куды больш моцны эмацыйны фон, чым “казённы” назоўнік *мерапрыемства*.

Некалькі слоў пра яшчэ адну сінанімічную пару: **сеціва – інтэрнэт**. Адметнае беларускае слова *сеціва* паводле свайго семантычнага аб’ёму цалкам пакрывае значэнне інтэрнацыянальнага паняцця *інтэрнэт*. І гэта нярэдка дапамагае ў стылістычным афармленні выказвання, дазваляючы не толькі пазбегнуць таўталогіі, але і ўзбагачаючы асацыятыўны складнік усяго кантэксту: *Свае старонкі ў* ***сеціве*** *маюць не толькі прыватныя стаматалагічныя клінікі, але і дзяржаўныя... У змаганні за кліента клінікі ладзяць* ***інтэрнэт****-акцыі* (Наша ніва, 26.10.11); *–* ***Інтэрнэт*** *дапамагае пісьменніку! – рашуча заявіў галоўны рэдактар “Нёмана”. – У* ***сеціве*** *можна распаўсюджваць і рэкламаваць свае творы.* “Слова “*сеціва*” па сваіх магчымасцях, па значэнні, дастаткова багатае і ёмістае, – адзначае вядомы айчынны лінгвіст Вераніка Курцова. – Калі мы ўбачылі нейкую асаблівасць прадмета і паводле гэтай асаблівасці яму надалі трапную назву, слова прымаецца людзьмі без усялякага недаверу. А калі мы не шукаем адпаведнікаў, не карыстаемся імі, тады і з’яўляюцца ў некаторых людзей уяўленні кшталту “беларуская мова бедная і нязграбная” (“Звязда”, 19.02.2011). Кожнае адметнае беларускае слова заўсёды прыцягвае ўвагу чытача ці слухача. І таму варта як найчасцей уводзіць беларускія адпаведнікі ў штодзённую камунікацыю. А моўная практыка потым пакажа: замацуецца слова ва ўжыванні або трапіць у разрад аказіянальных.

Яшчэ адну пару назоўнікаў – **фестываль** і **фэст** – “сучасная маўленчая практыка нярэдка выкарыстоўвае як тоесныя сваім значэннем, аддаючы перавагу больш пашыранаму і працягламу ў выкарыстанні слову *фэст*”, – заўважае праф. П. Сцяцко. Раней лексема *фэст* абазначала царкоўнае свята, але потым значэнне слова істотна пашырылася. І *фэстам* сталі называць любое свята з кірмашамі і забавамі, з рознымі гуляннямі. Падобная тэндэнцыя адлюстроўваецца і ў публіцыстычным дыскурсе: *Арганізатары* ***фестывалю*** *беларускай музыкі на Беласточчыне дамаўляюцца з консульскімі аддзеламі Польшчы аб магчымасці выдачы візаў усім ахвотным наведаць “Басовішча-2011”.* ***Фэст*** *пройдзе 22-24 ліпеня ў Гарадку* (Наша ніва, 01.06.11); *Гэтыя ўкраінскі, запарожскі* ***фэст*** *нечакана для ўсіх стартаваў у 2010 годзе.* ***Фестываль*** *незалежнай музыкі летась прайшоў двойчы пры невялікай колькасці гледачоў... Сярод гасцей* ***фэсту*** *– культавыя “Умка і Бро”. Дата* ***фестывалю*** *сёлета пакуль невядомая...* (Наша ніва, 8.06.11); *Байкерскі* ***фэст*** *у “Лагойску”* (Загаловак)*... Ад 22 да 24 ліпеня ў Гарналыжным спартова-аздараўленчым комплексе “Лагойск” пройдзе шосты міжнародны байкерскі* ***фестываль*** *“Мінск-2011”* (Наша ніва, 20.07.11); *22-24 ліпеня пад Гарадком на Беласточчыне пройдзе ўнікальны* ***фэст*** *беларускай музыкі “Басовішча-2011”. Сёлета* ***фестываль*** *пройдзе 22-і раз* (Наша ніва, 20.07.11); *У мінулую суботу ў Полацкім раёне адбыўся бульбяны* ***фэст****... Як сцвярджаюць арганізатары, гэта, магчыма, першы такі* ***фестываль*** *ва ўсёй Беларусі* (Звязда, 26.07.11); *Стартаваў* ***фестываль*** *беларускамоўнай рэкламы AD.NAK* (Загаловак). *Азнаёміцца з намінацыямі... можна на сайце* ***фэсту****...* (Наша ніва, 2.05.12); ***Фестываль*** *паветраных шароў і касцюміраваная рэканструкцыя танцаў XIII стагоддзя “Паветраны паланэз” прайшлі ў Нясвіжы.* ***Фэст*** *прымеркаваны да святкавання 229-годдзя з моманту першага заваявання чалавекам паветра...* (Звязда, 16.10.12). Разам з тым адзначым, што, нягледзячы на дастаткова моцныя сінанімічныя сувязі, названыя лексемы ўсё ж не варта ўспрымаць як цалкам узаемазамяняльныя. Адметнае беларускае слова **фэст** пакуль, напрыклад, неадназначна ўспрымаецца пры абазначэнні традыцыйнага “Славянскага базару ў Віцебску”. Як паказваюць нашыя назіранні, у свядомасці носьбітаў беларускай мовы гэта, у першую чаргу, *фестываль*, а не *фэст*. Таму і сама фраза кшталту ***Фэст*** *“Славянскі базар”* гучыць пакуль нязвыкла, ненатуральна. Думаецца, не ў апошнюю чаргу таму, што названая імпрэза не атаясамліваецца з нечым беларускім, нацыянальным.

Такім чынам, мы разгледзелі некаторыя асаблівасці сучаснай беларускай сінанімікі ў кантэксце публіцыстычнага дыскурсу. Як бачым, новыя словы аказваюць істотны ўплыў і на стылістыку тэксту. Новыя – прынамсі, для шараговага карыстальніка, для рэцыпіента, на якога і разлічаны нашыя перыядычныя выданні. Матэрыял паказвае, што ў сучаснай беларускай мове назіраецца даволі імклівы працэс узмацнення яе сінанімічнага патэнцыялу праз пашырэнне слоў з адценнем навізны. Гэта не проста ўзбагачае слоўнік нашай мовы, не толькі павялічвае яе сінанімічныя магчымасці, але і спрыяе павышэнню агульнай культуры маўлення, фарміраванню адмысловага моўнага густу.

***Юрась Бабіч,***
*кандыдат філалагічных навук*

# Фэст у Верхнядзвінску

**12 верасня ў парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі адбыўся парафіяльны фэст, на якім прысутнічаў ганаровы госць – арцыбіскуп на пенсіі Тадэвуш Кандрусевіч. Па добрай народнай традыцыі шаноўнага іерарха парафіяне сустрэлі хлебам-соллю.**

■ **Алена Пажога**, *тэкст*; **Леанід Юрык**, *фота*

На пачатку святой Імшы пробашч парафіі Аляксандр Грыцкевіч у прывітальным слове адзначыў, што гэты дзень значны і гістарычны для парафіян, бо арцыбіскуп Кандрусевіч першы раз наведаў парафію ў Верхнядзвінску. Гэты цуд, па словах святара, стаў магчымым, бо і ён, і вернікі шчыра маліліся ў гэтай інтэнцыі.

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч падзякаваў усім за малітоўную падтрымку, якую асабліва адчуваў падчас мінулагодніх выпрабаванняў, калі на працягу чатырох месяцаў не мог вярнуцца ў Беларусь, і ўзначаліў святую Імшу.



У гаміліі іерарх падкрэсліў важнасць падрыхтоўкі, асабліва духоўнай, да нараджэння кожнага дзіцяці, а таксама расказаў пра нараджэнне Дзевы Марыі, Якую параўнаў з ранішняй зоркай, пра духоўнае выхаванне будучай Маці Збаўцы яе бацькамі – святым Яўхімам і святой Ганнай. Арцыбіскуп выказаў занепакоенасць адносінамі да дару жыцця ў сучасным свеце, у сучаснай Беларусі. За мінулы год насельніцтва Беларусі зменшылася на 60 тысяч. Падчас абортаў забіта 29 тысяч дзяцей. Гэта сапраўдны генацыд беларускага народа, з чым нельга пагадзіцца. Трэба супрацьстаяць такім адносінам да чалавечага жыцця, будаваць стасункі на аснове Евангелля, на Божых запаведзях, на хрысціянскіх каштоўнасцях. Шчаслівую будучыню мы зможам пабудаваць, калі пабудуем адносіны з Богам. Нялёгка выконваць Божыя запаведзі, няпроста выконваць Божую волю, але гэта наш хрысціянскі абавязак. На заканчэнне казання арцыбіскуп заклікаў: "Беларусь, калі хочаш быць вялікай, жыві паводле Божага закону! Беларусь, калі хочаш быць моцнай, барані жыццё!"



Затым вернікі прынеслі да алтара дары: сэрца – сімвал сэрца, якое баліць за Беларусь, свечку, ружанцы, зробленыя рукамі міністрантаў, збожжа, хлеб і віно.

Традыцыйна ў свята Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі адбылося асвячэнне зерня для сяўбы.

Пасля заканчэння святой Імшы старшыня парафіяльнай рады ад імя ўсіх парафіян выказала словы падзякі шаноўнаму госцю і ўручыла букет руж. Ксёндз Аляксандр Грыцкевіч падарыў арцыбіскупу абраз Георгія-Пераможцы. Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч у сваю чаргу падзякаваў за цёплую сустрэчу і супольную малітву.

Затым прысутныя памаліліся Літаніяй да Найсвяцейшай Панны Марыі пры выстаўленым Найсвяцейшым Сакраманце. Пасля благаславення пробашч запрасіў дзяцей і моладзь на салодкі пачастунак, каб гэты святочны дзень застаўся ў іх памяці яшчэ больш яркім.

# 20 гадоў парафіі ў Ветрыне

**Ветрына – мястэчка ў Полацкім раёне. Парафія пад тытулам Бласлаўлёнага Юрыя Матулевіча была зарэгістраваная 21 чэрвеня 2001 года.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

На першую Імшу прыйшло толькі сем чалавек. Першым пробашчам, які служыў тут да жніўня 2002 года, быў кс. Вячаслаў Барок, на плечы якога лягла арганізацыя парафіі. Гэтую справу працягнуў ксёндз Міхал Станчук з Седлецкай дыяцэзіі (Польшча), каторы быў пробашчам парафіі ў 2002-2004 гг. Дзякуючы яму ў парафіі з'явілася капліца, перароблееная з былой мясцовай кнігарні. 11 ліпеня 2004 года святыню ўрачыста кансэкраваў біскуп Збігнеў Кернікоўскі з Седлецаў.

Затым пробашчам і адміністратарамі былі: кс. Францішак Кісель (2003-2004) з вікарыем кс. Леанідам Мозгелем, кс. Віктар Місевіч (2005-2007), кс. Валянцін Нарадоўскі, з 2014 года – кс. Дзмітрый Рацько.

28 жніўня парафія Бласлаўлёнага Юрыя Матулевіча шчыра вітала гасцей і мясцовых вернікаў на сваёй парафіяльнай урачыстасці – дваццаць гадоў, як яна была зарэгістраваная. На свята прыбылі і ганаровыя госці: біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, першыя і папярэднія пробашчы – кс. пралат Францішак Кісель і кс. канонік Віктар Місевіч, прадстаўнік грэка-каталіцкай царквы а. Аляксандр Шаўцоў. Таксама разам маліліся святары з суседніх парафій.

На заканчэнне ўрачыстасці словы падзякі сказаў кс. Дзмітрый да ўсіх прысутных за магчымасць урачыстай супольнай малітвы. Капліца, якая кожную нядзелю бачыць каля дваццаці вернікаў, на гэты раз была перапоўненая. Пасля Імшы на вуліцы перад святыняй адбылося асвячэнне крыжа.

Ветрынская парафія хоць невялікая, але вельмі дружная. Яна з радасцю чакала гасцей і, як звычайна бывае на свяце, не пакінула нікога без слодычаў.

За час свайго існавання парафія вырасла. Касцёл і з густам спланаваны касцельны пляц з'яўляюцца, бадай, самым прывабным месцам у Ветрыне.





*Паслухаць гамілію біскупа Алега Буткевіча на ўрачыстасці ў Ветрыне можна, адсканаваўшы QR-код:*



*Відэа Леаніда Юрыка*



# Манахіня з Віцебска ў Афрыцы

**Беларуская сястра Дам'яна Д'якону з Кангрэгацыі Сясцёр Езуса Міласэрнага зараз працуе ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы. У сённяшнім нумары манахіня распавядае чытачам "Каталіцкага Весніка" пра сваю веру і дапамогу тым, хто ў патрэбе, а таксама дзеліцца праявамі Божай Міласэрнасці ў сваім жыцці.**

**– Сястра Дам'яна, раскажыце крыху пра сябе.**

– Я нарадзілася ў Мёрах. У мёрскім касцёле мяне хрысцілі, але не запісалі ў актах хросту. Мой бацька быў вайскоўцам і некаторы час нават не ведаў пра мой хрост. Ксёндз Грабоўскі, тагачасны пробашч парафіі, папярэдзіў маму з бабуляй: калі хтосьці нешта спытае, каб мы сказалі, што толькі хацелі паглядзець касцёл. Такія былі часы. Наш тата не верыў у Бога і не хацеў, каб яго дзеці верылі. Ён пераконваў мяне, што вера не мае нічога агульнага з рэальным жыццём. Я пачала ўзвышацца над маімі сваякамі-вернікамі. Задавала ім розныя пытанні пра Бога, а яны часта не мелі адказу. Толькі проста верылі і маліліся. Калі мне было дванаццаць гадоў, я дакучала сваёй цётцы, спрабуючы яе пераканаць, што Бога няма. Яна ж мне адказвала: "Каму Бог не патрэбны, той няхай не верыць". Я адчула, што мая балбатня параніла жанчыну. Тады паабяцала сабе, што больш ніколі не буду так размаўляць з вернікамі. Я параўнала веру з інваліднасцю майго дзядзькі: мне нічога не перашкаджае яго любіць толькі праз тое, што ён кульгае.

Пасля заканчэння школы мае бацькі пераехалі ў Віцебск. Мая стрыечная сястра трапіла ў абласную бальніцу. Ужо некалькі гадоў у яе быў рак. Калі я прыйшла яе наведаць, то зразумела, што яна памірае. Мама папрасіла айца Януша, каб яе падрыхтаваў да смерці. Сястра памірала ў мяне на руках, яе муж запаліў грамніцу. "Дзякуй", – такімі былі яе апошнія словы. Гэтая смерць стала пераломным момантам у маім жыцці. "Навошта любіць, калі гэта так балюча?"– пыталася я сама ў сябе. Сэнс жыцця выцякаў з маіх рук. Я думала: "Што ад тых надпісаў пра вечную памяць на могілках, калі чалавека ўжо не вярнуць?.."

**– Якім урэшце быў Ваш прыход да Бога? І як з'явілася вера?**

– Мне на вочы трапіла кніга "Божая Міласэрнасць у маёй душы" – духоўны "Дзённік" святой сястры Фаўстыны. Яе калісьці падарыла мне мама. Я дала сабе слова, што прачытаю гэтую кнігу. У той перыяд для мяне, калі ўжо і быў Бог, то справядлівы. Я лічыла, што для тых, хто ходзіць у касцёл, – неба, а для астатніх – пекла. А там нехта піша пра Міласэрнасць Бога. У гэтым момацне ўва мне пасеялася зерне веры. Неўзабаве я паспавядалася і прыняла Першую Камунію ў касцёле св. Барбары ў Віцебску, а пазней з рук святой памяці кардынала Казіміра Свёнтка прыняла сакрамант Бежмавання. У той дзень была арганізаваная сустрэча моладзі з кардыналам. Тады я ўпершыню пачула сведчанне яго веры. Потым яно было надрукаванае, і з таго часу гэтая выразка з газеты заўсёды са мной. Я хацела як мага глыбей уключыцца ў жыццё Касцёла. Чытала Евангелле і толькі адно бачыла, што Бог кліча мяне. Шмат малілася, была ў паломніцтве.

Я пастаянна дзякую Богу за парафіян з Віцебска, за іх асаблівае сведчанне веры і малітвы! Яны заўсёды ў маім сэрцы, і я вельмі ўдзячная ім!

**– Як Вы сталі манахіняй?**

– Мне здавалася, што Богу ўсё адно, у які манастыр я пайду. Я ведала толькі сясцёр Дэмбіцкіх і папрасіла іх прыняць мяне да сябе. Але ўжо адразу адна сястра заўважыла, што ў мяне ёсць пакліканне, але не да іх. Пасля некалькіх гадоў я сапраўды вярнулася дадому, шукаючы адказу, што далей. Стала зразумела, што гэта не я выбіраю, а Бог выбірае мяне. Было некалькі прапаноў ад розных кангрэгацый, але я ўжо ведала, што калі не Сёстры Езуса Міласэрнага, то я больш не спрабую. Так я адкрыла шлях майго паклікання. Потым была падрыхтоўка да вечных манаскіх абяцанняў. Склала я іх у Чэнстахове.

**– Вы працавалі дзесьці да таго, як Вас накіравалі ў Афрыку?**

– Спачатку чатыры гады я служыла ў Расіі, у Варонежы. Там, дарэчы, упершыню ў парафіі сустрэлася са студэнтамі з Афрыкі. Затым дзевяць гадоў служыла ў санктуарыі Маці Божай у Ракітне, што ў Польшчы. А потым мне прапанавалі паехаць у Афрыку – і я згадзілася.

**– Колькі часу вы ўжо там служыце?**

– Шэсць гадоў таму я прыляцела ў Паўднёва-Афрыканскую Рэспубліку. Нашы сёстры тут ужо дзесяць гадоў пры парафіі Божай Міласэрнасці, недалёка ад Ёханэсбурга. Зараз мы тут удваіх з сястрой, якая родам з Польшчы.

**– Раскажыце пра пачатак свайго служэння ў Афрыцы...**

– Спачатку я ўвогуле не разумела англійскую мову і дапамагала аднаму паляку, які тут даўно жыве і займаецца дабрачыннасцю, кормячы дзяцей з інтэрната. Аднойчы, калі мы разлівалі суп па талерках, падышоў суседскі хлопчык і сказаў: "Я таксама хачу быць католікам". Тады я зразумела, што, нават калі я не ведаю мовы, Бог і так можа мяне выкарыстоўваць для сваіх спраў. Сястрычка гэтага хлопчыка ад нараджэння мела праблему з дыханнем. Мы называлі яе "паравозік". Праз яе вельмі гучнае сапенне ўсе ведалі, што гэта менавіта яна ўваходзіць у касцёл. Часта дзеці не хацелі з ёй гуляць, думаючы што гэта сухоты. Нам усё ж удалося паказаць дзіця прыватнаму лекару. Маці ў клініцы сказалі, што падчас цяжарнасці яна ела шмат марозіва... Аказалася, што патрэбна была вельмі простая аперацыя. Ужо на наступны дзень усё было ў парадку. Пяць гадоў дзяўчынка мучылася...



**– Як рэагуюць на Вас як на "белую" манахіню мясцовыя жыхары?**

– Католікаў тут каля сямі адсоткаў. Нягледзячы на тое, што апартэід скончыўся ў 1994 годзе, ёсць розніца паміж расамі. У некаторыя месцы "белыя" не ходзяць, а ў некаторыя не ходзяць "чорныя". Але мы неяк не адчуваем нядобразычлівасці. Часцей павагу або цікаўнасць. Часам мясцовыя людзі чакаюць благаславення ад Бога. Тут вельмі шмат нацыянальнасцей, таму, мне падаецца, тут шмат талерантнасці.

**– Як выглядае сёння Ваша місія?**

– Мы з сёстрамі пачалі карміць каля васьмідзесяці дзяцей, але праз каранавірус давялося зрабіць паўзу: нельга было збірацца. Цяпер дапамагаем нашым бліжнім, камусьці ежай, камусьці транспартам, таксама дапамагаем хворым, збіраючы сродкі на аперацыі.

І наша галоўная задача, наша харызма – прасіць аб Божай Міласэрнасці, а таксама абвяшчаць і праслаўляць Божую Міласэрнасць. Яшчэ да нашага прыезду сюды адзін свецкі чалавек ужо пачаў тут гэтую місію. У яго жонкі быў рак грудзей. Ён маліўся і абяцаў Богу, што, калі яго жонка паправіцца, ён пойдзе да ўсіх суседзяў і раскажа ім пра Божую Міласэрнасць.

**– Цікава, чым скончылася гэтая гісторыя?**

– Хвароба жонкі сапраўды адышла. З тых часоў ён не пераставаў несці вестку пра Божую Міласэрнасць людзям. Сабраў таксама групу людзей, якія падтрымлівалі яго місію. Разам з намі падчас каранавірусу ездзіў да сем'яў. Арганізоўваў сустрэчы, каб мы маглі дзяліцца з людзьмі верай у Божую Міласэрнасць. Два месяцы таму ён памёр ад кавіда. І адбыўся яшчэ адзін цуд. Ад дня пахавання з намі кантактуюць людзі, у тым ліку маладыя, з просьбай працягваць місію Юзафа – так звалі таго чалавека. Арганізавалі малітвы ў інтэрнэце, збіраюцца ў групах таксама праз інтэрнэт, запрашаюць на сустрэчы. Так што місія развіваецца і сёння.

*Гутарыла* ***Ірына Радзевіч***





# У рэдакцыі можна замовіць кнігу “ПАМІЛАВАНЫЯ”

У выдавецтве “Про Хрысто” выйшла ў свет кніга айца Аляксандра Жарнасека, марыяніна, пад назваю **“Памілаваныя”.** У кнізе аўтар дзеліцца сваім хрысціянскім і святарскім досведам, на прыкладзе многіх гісторый паказвае, наколькі мы залежныя ад Бога, наколькі вялікая любоў Бога да чалавека і наколькі мы беззадапаможныя без Яго ласкі. У нейкім сэнсе, гэтая кніга, хутчэй, сведчанне пра дзеянне Бога, чым навучанне. І гэта невыпадкова, бо менавіта сведчанне часта нараджае і памнажае ў нас веру.

**Айцец Аляксандр Жарнасек MIC** – святар з ордэна айцоў-марыянаў. Прапаведнік і рэкалекцыяніст. Пачынаючы з 2000 года, цесна звязаны з рухам Адновы ў Духу Святым, што аказала вялікі ўплыў на фармацыю яго духоўнасці. У 2009–2020 гг. нёс святарскую паслугу ў калоніі №12 у Оршы, што таксама моцна адбілася на яго духоўным вопыце. Арганізатар многіх курсаў і рэкалекцый для моладзі, сем’яў і малітоўных сустрэчаў “Вінаграднік”. Многія матэрыялы гэтых курсаў, а таксама аўдыёказанні змешчаныя на сайце аўтара ***www.viartannie.org.*** Жыве і служыць у Санктуарыі Росіцкіх пакутнікаў у Росіцы, Віцебская дыяцэзія.




Набыць кнігу **“Памілаваныя”** можна, склаўшы замову ў рэдакцыі “Каталіцкага Весніка” праз электронную пошту ***katalickivesnik@gmail.com***
з пазнакай:
**ПАМІЛАВАНЫЯ,**
ці па тэлефоне:
**+37529 736-53-07**
(з 10.00 да 17.00,
акрамя суботы і нядзелі).

**Кніга будзе высылацца Белпоштай накладзеным плацяжом.**

***УВАГА! Кошт кнігі 17 рублёў + кошты па перасылцы, якія аплочвае замоўца.***

## На кастрычнік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**2** кастрычніка – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*;

**4** кастрычніка – **дзень нараджэння** адзначае **кс. канонік Віктар Місевіч** *(Віцебск)*, **імяніны** адзначаюць **кс. прэлат Францішак Кісель** *(Полацк)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*;

**7** кастрычніка – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Алег Хмылко** *(Полацк)*;

**8** кастрычніка – **дзень нараджэння** адзначаюць **кс. Іван Кароткін** *(Наваполацк)*, **а. Кляменцій Верт SJ** *(Віцебск)*;

**11** кастрычніка – **імяніны** адзначаюць **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*; **а. Аляксандр Астраушка OFMCap** *(Докшыцы)*;

**12** кастрычніка – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Алег Зямчонак** *(Глыбокае)*, **кс. Уладзіслаў Шарковіч** *(Віцебск)*;

**13** кастрычніка – **імяніны** адзначаюць **кс. канонік Эдвард Ахрамовіч** *(Опса)*, **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*;

**18** кастрычніка – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. канонік Андрэй Аніскевіч** – дырэктар “Карытас” *(Віцебск)*;

**22** кастрычніка – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*, **імяніны** адзначае **кс. Алег Хмылко** *(Полацк)*;

**25** кастрычніка – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Андрэй Вашчук SDS** *(Віцебск)*;

**28** кастрычніка – **імяніны** адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Докшыцы, Бягомль)*.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Арфеева***



# Тэст на праверку Біблійных ведаў



**Новы тэст “Каталіцкага Весніка” складаецца з пытанняў рознага ўзроўню і накіраваны на праверку Біблійных ведаў. Наколькі добра Вы ведаеце Святое Пісанне? Праверце сябе, прайдзіце тэст.**

**1** Як звалі сына Адама і Евы, які нарадзіўся пасля смерці Абеля?



**А.** Сіф
**Б.** Енох
**В.** Сім

**2** Якога прарока Госпад паслаў сведчыць у Ніневію?



**А.** Міхея
**Б.** Ёну
**В.** Ісаю

**3** Які дар прасіў у Бога цар Саламон?



**А.** Дар прароцтва
**Б.** Мудрасць
**В.** Прыгожую жонку

**4** Хто са старазапаветных прарокаў засведчыў, што Езус будзе народжаны ад Дзевы?

**А.** Ісая
**Б.** Ерамія
**В.** Барух

**5** Назавіце горад, у якім нарадзіўся Езус Хрыстус?

**А.** Віфанія
**Б.** Назарэт
**В.** Бэтлеем

**6** Як звалі вучня Езуса Хрыста, брата апостала Андрэя?

**А.** Ян
**Б.** Якуб
**В.** Пётр

**7** Якім рамяством займаўся апостал Павел падчас місійных вандровак?



**А.** шыў намёты
**Б.** лавіў рыбу
**В.** пасвіў авечак

**8** Прадстаўнікі якой рэлігійнай групы не верылі ва ўваскрашэнне з мёртвых?



**А.** Фарысеі
**Б.** Садукеі
**В.** Кніжнікі

**9** Хто ўваскрасіў праведную Табіту?



**А.** апостал Пётр
**Б.** апостал Павел
**В.** апостал Андрэй



**10** Імя першага мучаніка за веру:
**А.** Барнаба
**Б.** Пётр
**В.** Стэфан

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Арфеева***

**Правільныя адказы на віктарыну: старонка 16**



**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

## Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны чацвер з 17.00.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298

# Каляндар на кастрычнік



**Кастрычнік – месяц ружанцовай малітвы**. У гэты перыяд Касцёл асабліва заахвочвае нас маліцца менавіта гэтай малітвай. Ружанец (па-лацінску *rosarium* – ружавы вянок) пэўная форма малітвы, паслядоўнасць якой адлічваецца нібы па пялёстках ружы. Айцом ружанца лічыцца святы Дамінік. Паданне гаворыць, што так маліцца навучыла яго Сама Найсвяцейшая Дзева. Яна і даручыла яму распаўсюджваць малітву па ўсім свеце. Але гэта не быў ружанец у яго сучаснай форме. Ружанец у тым выглядзе, на якім мы молімся зараз, склаўся дзякуючы дамініканцу Алану дэ ля Рош (1428-1475). Ён усталяваўся па колькасці псалмоў у Псалтыры 150 "Вітай, Марыя", падзеленых на 15 дзясяткаў, кожнаму з якіх папярэднічала малітва "Ойча наш". Каб распаўсюдзіць гэтую малітву, Алан дэ ля Рош арганізаваў першыя колы св. Ружанца. У XVI стагоддзі ружанец быў канчаткова падзелены на тры часткі, кожная з якіх уключала пяць таямніц (у 2002 годзе была дададзеная яшчэ адна, чацвёртая частка).

## 1 кастрычніка – успамін св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус, панны і доктара Касцёла.



Тэрэза Мартэн нарадзілася 2 студзеня 1873 г. у горадзе Алансон у Нармандыі (на паўночным захадзе Францыі). Яе тры сястры ўступілі ў Кармэль. Іх маці рана памерла, і старэйшая сястра Паўліна заняла яе месца і выхоўвала маленькую дзяўчынку. Але пасля Паўліна і сама прыйшла ў кляштар. Пакутуючы ад расстання, св. Тэрэза захварэла. У чатырнаццацігадовым узросце яна сама папрасіла прыняць яе ў кармеліцкі кляштар. Але біскуп і Папа Леў XII адхіліці просьбу.

Праз год яна ўсё ж такі атрымала дазвол на ўступленне. Дзевяць гадоў св. Тэрэза была кармеліткаю. Сёстры з супольнасці часта яе не разумелі і ставіліся да дзяўчыны скептычна. Духоўныя пакуты Тэрэзы абцяжарваліся пакутамі фізічнымі, якія яна цярпела праз цяжкую форму сухотаў – захварэла ўжо ў кляштары. Гэтыя цярпенні Тэрэза жадала ахвяраваць за грэшнікаў.

Святасць Тэрэза разумее як бязмежны давер да Бога і стаўленне дзіцяці ў адносінах да Яго міласэрнай любові. Свой "малы шлях" да святасці Тэрэза ад Дзіцятка Езус прайшла праз поўнае прысвячэнне сябе Богу і ахвяры за збаўленне свету. Яна адышла ў вечнасць 30 верасня 1897 г. ва ўзросце 24 гадоў. У 1997 г. падчас Сусветнага дня моладзі ў Парыжы св. Ян Павел II абвясціў святую Тэрэзу, якую часам называюць "Малой", доктарам Касцёла.

## 4 кастрычніка – успамін Святога Францішка Асізскага.



Францішак Асізскі – заснавальнік ордэна меншых братоў – нарадзіўся ў 1181 г. у горадзе Асізі ў Умбрыі (Цэнтральная Італія), у сям'і купца і гандляра тканінамі П'етра Бернардоне. Правёўшы юнацтва бесклапотна і весела, ва ўзросце 24 гадоў ён перажыў навяртанне, і з таго часу цалкам прысвяціў сябе Богу. Ён пачаў жыць у крайняй беднасці, даглядаў пракажоных, уласнымі рукамі адбудоўваў разбураныя касцёлы, прапаведаваў. У хуткім часе ў яго з'явіліся паплечнікі, а яшчэ крыху пазней – у 1209 г. – Папа Інакенцій III зацвердзіў Правіла новага братэрства. Так з'явіўся Францішканскі ордэн.

За два гады да смерці Францішак атрымаў ад Пана дзіўны дар – стыгматы. Знясілены пастаянным постам і суровым ладам жыцця, 3 кастрычніка 1226 г. ён памёр. Менш чым праз два гады Папа Грыгорый IX залічыў Францішка да ліку святых. Яго "Гімн Сонцу" стаў першым вершам на італьянскай мове, даўшы пачатак развіццю паэзіі на нацыянальных мовах.



## 15 кастрычніка – успамін св. Тэрэзы ад Езуса, панны і доктара Касцёла.



Тэрэза Авільская нарадзілася 28 сакавіка 1515 года ў Авіле (Іспанія). З дзяцінства будучая святая вызначалася любоўю да кніг і глыбокай пабожнасцю. Ва ўзросце дваццаці гадоў таемна збегла з дому і ўступіла ў кармеліцкі кляштар у Авіле, узяўшы пры гэтым імя "ад Езуса". Пасля нядоўгага знаходжання ў манастыры Тэрэза цяжка захварэла, яе спаралюшавала, але яна перамагла хваробу.

У манастыры Тэрэза набыла багаты містычны досвед: ёй неадназова з'яўляўся Езус, а херувім працяў яе сэрца вогненнай дзідай. Пеpажыўшы глыбокі містычны вопыт, святая імкнулася да дасканаласці жыцця, і таму ў 1562 годзе ў Авіле заснавала першы рэфармаваны кармеліцкі кляштар, у якім шмат увагі прысвячала малітве, самотнасці, суровай аскезе. У кляштары жыло ўсяго дванаццаць сясцёр – па ліку апосталаў. Тэрэза Авільская прайшла пешшу па ўсёй Іспаніі 5600 кіламетраў. Напрыканцы яе жыцця ў Іспаніі было шаснаццаць такіх рэфармаваных супольнасцей, якія сталі ядром новай галіны кармеліцкага манаства – "басаногіх кармелітак". Самым значным творам святой Тэрэзы стаў "Унутраны замак". У гэтым містычным трактаце яна адлюстроўвае душу як замак са шматлікімі пакоямі, у цэнтры якога знаходзіцца Хрыстус.

Святая Тэрэза памерла ў 1582. У 1622 г. Папа Рыгор XV далучыў яе да ліку святых. У 1970 г. Папа Павел VI абвясціў яе Доктарам Касцёла. Святая Тэрэза Авільская лічыцца галоўнай нябеснай заступніцай Іспаніі.



## 16 кастрычніка – успамін св. Маргарыты Марыі Алякок, панны.

Нарадзілася 22 ліпеня 1647 г. у Лёткуры (Бургундыя, Францыя) у сям'і паважаных месцічаў. У 1671 г. уступіла ў закон Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі (візіткі) у Парэ-ле-Маньяль. У 1673 г. французская манахіня Маргарыта Марыя Алякок перажыла бачанне Езуса, у якім Ён папрасіў Касцёл шанаваць Яго Найсвяцейшае Сэрца. Сярод шматлікіх абяцанняў Езуса, перададзеных праз св. Маргарыту, было: "Абяцаю ў шчодрай міласэрнасці Майго Сэрца, што ўсіх, хто на працягу дзевяці месяцаў у першыя пятніцы будзе прымаць святую Камунію, Мая ўсемагутная любоў адорыць ласкаю шчырага пакаяння; што не памруць ні ў стане без Маёй ласкі, ні без святых сакрамантаў, і што Сэрца Маё станецца для іх бяспечным прытулкам у часіну смерці".

## 18 кастрычніка – свята Святога Лукі, евангеліста.



Евангеліст Лука быў антыяхійцам па нараджэнні і першапачаткова язычнікам паводле веравызнання. Прыняўшы веру Хрыста ў сталіцы Сірыі, будучы сведка-пісьменнік сустрэўся з найбольш вядомым прапаведнікам Езуса – апосталам Паўлам. Ад яго, а таксама з іншых крыніцаў, ці то запісаных, ці то вусных, ён атрымаў інфармацыю, якую змясціў на старонках Евангелля і Апостальскіх Дзеяў. Лука ўдзельнічаў у некаторых місійных падарожжах Апостала Народаў, даследаваў жыццё Хрыста ў Палесціне, вызначаўся мастацкім талентам, быў медыкам па прафесіі. Айцы Касцёла з першых стагоддзяў, а менавіта Ірэней з Ліёна (130–202 гг), Клімент з Александрыі (150–215гг), Эўсэбій з Кесарыі (каля 325 г.), а таксама Канон Мураторыя (каля 170 г.) упэўнена называюць імя Лукі як аўтара трэцяга Евангелля і Апостальскіх Дзеяў. Лічыцца, што Лука загінуў мучаніцкай смерцю за веру.

## 22 кастрычніка – успамін святога Папы Яна Паўла II.



22 кастрычніка 1978 года ўрачыста распачаўся пантыфікат Вялікага Папы Яна Паўла II, які доўжыўся 27 гадоў і быў адным з самых працяглых пантыфікатаў у гісторыі Каталіцкага Касцёла. За час свайго служэння Папа здзейсніў 146 апостальскіх візітаў на тэрыторыі Італіі, 104 замежныя візіты, абвясціў 1338 чалавек блаславёнымі і 482 чалавекі святымі. Сэрца Пантыфіка, шырока адкрытае для ўсіх, а перадусім для Бога, перастала біцца 2 красавіка 2005 г. Ён быў абвешчаны святым 27 красавіка 2014 г.



## 28 кастрычніка – свята святых Сымона і Юды, апосталаў.

Апостал Сымон перад тым, як далучыўся да супольнасці дванаццаці, належаў да палітычна-рэлігійнай габрэйскай групоўкі, чальцы якой называлі сябе зелотамі (арамейск. кананітамі) – руплівымі, змагарамі. Пасля ўваскрасення Хрыста ён абвяшчаў Евангелле ў асноўным у Егіпце і Арменіі. Паводле паданняў, абодва гэтыя апосталы вялі місіянерскую дзейнасць у Сірыі, Персіі і Месапатаміі і разам былі забітыя дубінамі каля 71 г. (па іншых звестках, Сымон быў распілаваны). Цела св. Юды з цягам часу перавезлі ў Рым. І па сённяшні дзень яно знаходзіцца ў базыліцы св. Пятра, дзе шматлікія вернікі аказваюць яму вялікую пашану. Святы апостал Сымон з'яўляецца апекуном дрывасекаў і лясных работнікаў, а заступніцтва св. Юды Тадэвуша просяць у безвыходных сітуацыях. Вядома, што той, хто ў самых складаных жыццёвых сітуацыях з глыбокаю вераю звернецца да св. Юды, абавязкова атрымае дапамогу: калі не тую ласку, пра якую просіць, то духоўную моц, каб несці свой крыж, цалкам аддаючыся Божай волі.

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Арфеева***

*Катэхеза с. Дар'і Галубковай OV*

# Свабода чалавека

**"Чалавек, як і кожная жывая істота ад Бога, нараджаецца свабодным". Да гэтай слушнай думкі народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава варта дадаць, што свабода чалавека мае ўсё ж зусім іншае вымярэнне: яна бярэ свой пачатак у яго падабенстве да Бога. Дзякуючы вольнай волі (як зрэшты і розуму) чалавек займае асаблівае месца сярод стварэнняў. У сваім жыцці ён мае магчымасць і здольнасць выбару каштоўнасцяў, прыняцця рашэнняў, распараджэння сваім часам. Адным словам, свабода – гэта неад'емны элемент чалавечай натуры.**

Слова "свабода" выклікае моцнае біццё сэрца, асабліва ў тых, хто ведае смак няволі. Абмежаванне, пазбаўленне волі, у сваю чаргу – гэта цяжар, які мы інстынктыўна прагнем скінуць з сябе. Нездарма народная прыказка гаворыць: дзе няма волі, там няма і долі. Гэта разумее нават малое дзіця, якое праяўляе сваё жаданне "рабіць па-свойму" плачам ці тупаннем ножкамі. Аднак вельмі хутка для таго ж дзіцяці становіцца відавочным, што існуе шмат правілаў і чыннікаў, якія ў той ці іншай ступені абмяжоўваюць яго свабоду, а за свае ўчынкі давядзецца несці адказнасць. Нельга пераходзіць дарогу на чырвонае святло, бо можна трапіць пад машыну. Трэба быць паслухмяным бацькам, бо інакш можна атрымаць пакаранне. Прыгадваюцца словы Апостала Паўла: *"Усё можна, але не ўсё карысна"* (1 Кар 10,23).

Бог стварыў чалавека вольнай асобай, каб той выбіраў *дабро*. Свабода не з'яўляецца мэтай сама па сабе. Між тым у сучасным свеце можна назіраць своеасаблівы ідалапаклонніцкі культ неабмежаванай свабоды: ідзі за сваімі жаданнямі, рабі толькі тое, што прыносіць задавальненне, тваё жыццё – твае правілы, ты нікому нічога не павінен. Аднак не трэба мець ілюзій, што само валоданне знешняй свабодай дае гарантыю быцця поўнасцю вольным чалавекам. Можна быць вызваленым ад знешняга прыгнёту, але адначасова ўжываць гэтую свабоду ў кепскіх мэтах, трапляючы ў залежнасць. Калі чалавек ставіць сваю волю вышэй за Божую, калі ён пераканаы, што можа вырашыць усё, то насамрэч становіцца нявольнікам граху. Гэтая ўнутраная няволя з'яўляецца значна горшай за знешнюю ды і больш небяспечнай, бо яна хаваецца пад выглядам свабоды.

Свабода будзе сапраўдным дабром толькі тады, калі мы карыстаемся ёю дзеля дабра. Не вельмі прыдасца свабода выбару ці свабода слова, калі гэты выбар і гэтыя словы будуць скаваныя эгаізмам, хлуснёй, нянавісцю і пагардай да іншых.

> **"Сапраўдным праяўленнем свабоды з'яўляецца любоў."**

Бог учыніў нас вольнымі істотамі, каб мы былі здольныя любіць: служыць адно аднаму, быць спагадлівымі да нядолі іншых, прагнуць супольнага дабра. *"Вы, браты, пакліканыя да свабоды. Толькі не выкарыстоўвайце свабоды, каб дагадзіць целу, але ў любові служыце адзін аднаму"* (Гал 5,13). Сэнс свабоды чалавека ў тым, каб усё больш становіцца вобразам Бога, Які адзін ёсць Добры (Мц 19,17), каб наследаваць Хрыста, Які аддаў сябе за іншых.

Свабода не толькі імкнецца да дабра, але і вырастае з *праўды*. Пан Езус кажа: *"І пазнаеце праўду, а праўда вызваліць вас"* (Ян 8,32). Чалавек вольны настолькі, наколькі кіруецца праўдай. Гэтай праўдай з'яўляецца Сам Хрыстус і Яго запаведзі. Нярэдка можна пачуць меркаванне, што Бог і Касцёл знявольваюць чалавека, абцяжарваючы непатрэбнымі абмежаваннямі. Адкуль узнікае такая думка, што вера ў Бога з'яўляецца перашкодай у дасягненні свабоды? Справа ў тым, што свабода, якую прапаноўваюць Бог і вучэнне Касцёла, цяжкая, яна дорага



каштуе, яна мае свае межы. Езус навучае: *"Імкніцеся прайсці праз вузкую браму"* (Лк 13,24). Бо гэтая брама вядзе да збаўлення, да Валадарства Нябеснага. У гэты ж час свет прапануе нам свабоду лёгкую і танную. Такім чынам, адзін шлях вядзе да свабоды, якую дае Хрыстус, а другі – да свабоды ад Хрыста. Аднак

> **"свабода без Бога – гэта зняволенне."**

Менавіта гэта мае на ўвазе Апостал Павел, звяртаючыся да галатаў: *"Дзеля свабоды вызваліў вас Хрыстус. Таму трывайце і не паддавайцеся няволі"* (Гал 5,1).

Адарванне свабоды ад праўды вядзе да атаясамлівання свабоды з абсалютнай аўтаноміяй, да перараджэння яе ў свавольства, якое супярэчыць любові сябе і бліжняга. Адкідваючы праўду і Божы Закон, чалавек пазбаўляе сябе магчымасці маральнага і духоўнага ўдасканалення: затрымліваецца на тым, што часовае, трапляе ў няволю граху і дрэнных схільнасцяў. А між тым Хрыстус перасцерагае нас: *"Якая будзе карысць чалавеку, калі ён здабудзе ўвесь свет, а душы сваёй пашкодзіць? Або што дасць чалавек узамен за душу сваю?"* (Мц 16,26)

У энцыкліцы *Veritatis Splendor* (1993г.) Папа Рымскі Ян Павел II адзначае, што чалавек у сваёй свабодзе схільны адварочвацца ад Праўды і Дабра, і ў рэчаіснасці ён сам надта часта выбірае хутчэй зямныя, абмежаваныя і ілюзорныя каштоўнасці. Ён бунтуецца супраць Бога, як першыя бацькі, Адам і Ева, хочучы сам стаць "як Бог" (Бц 3,5). Таму нашая свабода патрабуе вызвалення. А вызваліцелем з'яўляецца толькі Хрыстус.

# Цудоўнае вяртанне

**Парафіяне шукалі адабраны бальшавікамі абраз, які захоўваўся ў мясцовага жыхара. Напярэдадні ён убачыў сімвалічны сон...**



8 верасня, калі Каталіцкі Касцёл адзначае Нараджэнне Найсвяцейшай Панны Марыі, у Рэчыцкай парафіі адбылася знакавая падзея. У касцёл вярнуўся каштоўны абраз Маці Божай Балеснай, які знаходзіўся тут да 1920-х гадоў, калі яго разам з іншай маёмасцю парафіі адабралі бальшавікі.

Цудоўную гісторыю вяртання абраза распавёў Katolik.life парафіянін Анатоль Шчучко. Менавіта ён прыклаў намаганні да таго, каб знайсці каштоўны абраз. Дарэчы, яму ж абавязана беларуская культура вяртаннем яшчэ аднаго абраза – Святога Юзафа з Дзіцяткам Езусам пэндзля вялікага мастака Яна Дамеля.

– Мы ведалі, што раней у рэчыцкім касцёле знаходзіўся абраз Маці Божай Балеснай. Цяпер замест яго вісіць рэпрадукцыя. Абраз разам з іншай касцельнай маёмасцю адабралі бальшавікі падчас так званай "рэквізіцыі". Але, па чутках, адзін чалавек захаваў яго. Доўгі час знайсці абраз не атрымлівалася, але дапамог выпадак. Мясцовы жыхар прыйшоў у касцёл па працы, разгаварыліся з ім, і ён сказаў, што ведае чалавека, які захаваў абраз. Паехалі па адрасе, але аказалася, што той чалавек там ужо не жыве. Аднак суседзі падказалі, дзе яго шукаць: у вёсцы пад Рэчыцай. Накіраваліся туды.

Сустрэў парафіянаў 78-гадовы Іван Васільевіч Рудніцкі. Яго раней добра ведалі ў Рэчыцы, працаваў ён архітэктарам.

Сустрэў ён нас нечакана. Сказаў, ведае, чаго мы прыехалі, і распавёў, што напярэдадні ўбачыў знакавы сон. Спачатку не мог зразумець, да чаго ён, а пасля нашага прыезду адразу ўсвядоміў: трэба вярнуць абраз парафіі, – працягвае Анатоль Шчучко.

Аказалася, што знаёмы Івана Васільевіча быў адным з кіраўнікоў той самай "рэквізіцыі", і неяк прызнаўся яму, што замест таго, каб спаліць, забраў абраз дадому і схаваў за шафай. Захавалася і рама абраза, толькі ў яе ўжо ўклалі партрэт Сталіна. Праз нейкі час той чалавек пагадзіўся прадаць Івану Рудніцкаму абраз з рамай — гэта было ўжо ў 1980-х гадах. З таго моманту архітэктар бярог абраз, вазіў яго разам з сабой, куды б ні кідала чалавека праца. Казаў, што Маці Божая на абразе быццам жывая, таму з трапятаннем ставіўся да яго. Тым больш продкі Івана Рудніцкага – каталікі.

Дакладных звестак пра абраз няма: ні пра аўтара, ні пра час яго напісання. Але раней мастацтвазнаўцы казалі Івану Васільевічу, што абраз адносіцца да Віленскай школы жывапісу 1850-х гадоў.

– Як казаў вядомы Блез Паскаль, "выпадак – гэта псеўданім, пад якім Бог дзейнічае ў свеце", – заўважыў Анатоль Шчучко. А Маці Божая Балесная вярнулася на сваё месца ў рэчыцкай святыні. Абраз унёс у касцёл сам Іван Рудніцкі.

*Katolik.life*



### Хвала Хрысту!

Паважаны **ксёндз Віктар Місевіч!** Хутка Вы будзеце адзначаць свой Дзень нараджэння (4 кастрычніка). З гэтай нагоды прыміце нашы шчырыя віншаванні!

Няхай Маці Божая будзе галоўнай Заступніцай, а Пан Бог хай шчодра адорыць Вас усімі неабходнымі ласкамі! Божага натхнення Вам у душпастырскім служэнні і ў рэдакцыйнай працы, як мага больш адкрытых людскіх сэрцаў!

Шчыра дзякуем, ксёндз Віктар, за ўсе малітвы! Няхай Нябесны Айцец шчодра ўзнагародзіць Вас за мудрае абвяшчэнне Божага слова, якое заўсёды кранае нашы душы, за штодзённае служэнне Богу і людзям!

Дзякуючы газеце "Каталіцкі Веснік" мы памятаем пра дні нараджэння і гадавіны святарскага пасвячэння ксяндзоў. Дасылаем усім святарам нізкі паклон і словы ўдзячнасці, а таксама Вашым бацькам з пажаданнямі моцнага здароўя і даўгалецця! Будзем памятаць іх у сваіх малітвах!

**Ад усіх вернікаў Мядзельскай парафіі Маці Божай Шкаплернай, Ядвіга Жолнер**

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



Паважанаму **ксяндзу-пробашчу Аляксею Ляшко** з нагоды Дня нараджэння (21 верасня) дасылаем букет найлепшых пажаданняў! Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас, ксёндз Аляксей, моцным здароўем, стойкасцю, трываласцю ў нястомнай святарскай працы і як афіцыяла Біскупскага Суда! Няхай супакой і радасць паселяцца ў Вашым сэрцы, хай усмешка не сыходзіць з твару, а анёл-ахоўнік беражэ Вас пад сваімі крыламі ад хваробы, зла, смутку на ўсіх жыццёвых дарогах! Няхай Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, моліцца кожны дзень за Вас перад Божым тронам, прытуляе да свайго сэрца, а Пан Езус хай блаславіць і дае патрэбныя ласкі на далейшыя гады працы на карысць Богу і людзям, і неабходныя для кіравання нашай парафіяй! Няхай вера становіцца яшчэ больш шчырай, а Божае слова, якое Вы абвяшчаеце, усё глыбей пранікае ў нашыя сэрцы!

Дзякуем Усемагутнаму Богу за дар Вашага жыцця і прысутнасць сярод нас, а таксама ўзносім Пану Богу малітвы за Вас!

Дзякуем Вашай маме за сына-святара і жадаем ёй моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, Божага блаславення, нязгаснай веры і надзеі!

**З дарам малітвы і павагай, парафіяне касцёла Святога Айца Піа (Лёзна)**

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



Паважаны **ксёндз Славамір Самковіч!**

Прыміце нашы шчырыя віншаванні з нагоды Вашага 40-годдзя!

Няхай здароўе будзе моцным, у сэрцы заўсёды гасцяць спакой і дабрыня, а энергія спадарожнічае на працягу доўгіх гадоў жыцця! Жадаем, каб Анёл-ахоўнік моцна трымаў Вас за руку і дапамагаў у розных складаных жыццёвых сітуацыях. Няхай Маці Божая апякуецца Вамі і Вашымі роднымі!

Дзякуем за добрае сэрца, за мудрыя парады і за тое, што Вы з намі!

**Вернікі парафіі Божай Міласэрнасці (аг. Пагошча, Браслаўскі раён)**





### Хвала Хрысту!

Шаноўны **ксёндз Сяргей Сурыновіч!**

Сардэчна віншуем Вас з Днём Анёла, які Вы адзначылі 9 верасня!

Маючы духоўнае дараванне і пастаяннае жаданне дапамагаць людзям, Вы здабылі любоў і павагу вернікаў. Ваша духоўная мудрасць і палымянае сэрца садзейнічаюць узрастанню багатых пладоў на Божай ніве.

Жадаем Вам і Вашым родным добрага здароўя! Моцнай вытрымкі Вам на шляху служэння Богу і людзям!

**З павагай і шчырай удзячнасцю, вернікі парафіі Святога Юзафа (аг. Друйск)**

### Хвала Хрысту!

9 верасня імяніны ў нашага паважанага **ксяндза Сяргея Сурыновіча.**

Шаноўны ксёндз Сяргей!

Прыміце нашы шчырыя віншаванні з гэтай нагоды. Жадаем Вам моцнага здароўя, сіл і цярпення, душэўнага супакою, Божай падтрымкі ва ўсіх справах. Няхай Вас заўсёды атачаюць промні Божай Міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Маці Божай. Няхай добры Езу валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а Святы заступнік знаходзіцца побач.

Дзякуй Вам, шаноўны пробашч, за сумесныя малітвы і ахвярную працу, дабрыню і разуменне, за чулае сэрца і ўвагу да кожнага з нас.

**Вернікі касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Друі**

### Хвала Хрысту!

21 верасня **ксёндз Віктар Сініцкі SCJ** адзначыў 25 гадоў манаскага жыцця.

Шаноўны ксёндз Віктар! Прыміце шчырыя віншаванні з нагоды сярэбранага юбілею манаскіх абяцанняў!

Жадаем заўсёды заставацца верным Святарству Хрыста, а Ваш шлях служэння няхай будзе плённым і шчаслівым! Няхай Сэрца Езуса, крыніца міласэрнасці і любові, заўсёды суправаджае Вас, а добры Бог адудзячыцца за руплівае служэнне ў нашай парафіі!

Мы молімся за Вас, шаноўны ксёндз Віктар!

**З удзячнасцю і павагай, вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа (Шаркаўшчына)**

### Хвала Хрысту!





Парафія Маці Божай Унебаўзятай (в. Канстанцінава, Мядзельскі дэканат) дасылае сардэчныя віншаванні паважанай **Яніне Эдуардаўне Мурзіч** – маці нашага ксяндза-пробашча Алега Мурзіча.

Шаноўная Яніна Эдуардаўна! Няўмольна хутка бяжыць час, і Бог дае нам круглыя даты пройдзенага жыццёвага шляху. Мы шчыра віншуем Вас з адной з такіх юбілейных датаў, з Вашым 80-цігоддзем (29 верасня)! Жывіце доўга і ў добрым здароўі!

Шчодрай Вам Божай ласкі і нястомнай апекі Марыі! Няхай заўсёды Вас цешаць дзеці і ўнукі і няхай штодня ў Вашым жыцці будуць сонца, Божая любоў і кветкі! Дзякуем Вам за выхаванне сейбітаў Божай праўды – сыноў-святароў! Мы таксама віншуем Вашага сына, нашага **пробашча Алега Мурзіча**, з яго чарговым днё нараджэння (19 верасня).

Паважаны ксёндз Алег! Радасных, плённых, духоўна багатых Вам наступных гадоў працы на Божай ніве! Каб разам з Вамі і за Вашым прыкладам мы, вернікі, крочылі жыццёвай дарогай да вечнага збаўлення!

**Віншуем, дзякуем, паважаем і любім!**

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

Шаноўны і дарагі наш **айцец-пробашч Тадэвуш Кавальскі!** Дазвольце павіншаваць Вас з Днём святарскага пасвячэння (19 верасня) і пажадаць, каб кожны дзень быў непаўторным, напоўненым радасцю, шчасцем, асвечаны Божым святлом! Каб усе Вашы мары, задумкі, планы здзяйсняліся, а на жыццёвым і святарскім шляхах не было ніякіх перашкодаў і церняў! Няхай Пан Бог Усемагутны, Панна Марыя, Ваш святы апякун Юда Тадэвуш і ўсе святыя з неба атуляюць Вас сваёй любоўю, ахоўваюць ад усялякага гора, хваробаў, няшчасцяў і дапамагаюць у справах! Божага блаславення на кожны дзень Вашага святарскага служэння і жыцця, багатага плёну на Божай ніве! Здароўя моцнага, даўгалецця Вам і Вашым родным!

Дзякуем Вам за ахвярную і цяжкую працу ў нашай парафіі! А таксама дзякуем усім святарам, братам і сёстрам з касцёла Святой Тройцы ў Докшыцах за дапамогу ў Вашых справах і справах нашай парафіі, за добразычлівасць, уважлівасць і чуласць да ўсіх нашых парафіян!

**З найлепшымі пажаданнямі, малітвамі, павагай і любоўю, вернікі парафіі Хрыста Валадара (Бягомль)**

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

Шчыра віншуем нашага паважанага **святара Альфрэда Пяхоту** з Днём нараджэння!

Жадаем Вам, шаноўны ксёндз Альфрэд, моцнага здароўя, супакою, мудрасці, цярпення ў Вашай нялёгкай працы!

Няхай Пан Бог дапамагае Вам у штодзённых душпастырскіх клопатах, Дух Святы хай асвячае святлом кожны Ваш дзень, а Маці Божая атуляе Вас мацярынскай любоўю!

Дзякуем Вам за вернасць і адданасць Касцёлу і парафіі, за шчырую малітву, за Вашу чуласць і сардэчнасць!

**З удзячнасцю, малітвамі і шчырай павагай, вернікі парафіі Нараджэння Насвяцейшай Панны Марыі (Відзы)**

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

8 кастрычніка святкуе свой дзень нараджэння наш былы пробашч **ксёндз Іван Кароткін.**

Сардэчна віншуем Вас, ксёндз Іван, з нагоды дня нараджэння і выказваем вялікую падзяку за працу ў нашай парафіі, мы ўдзячныя Вам за ўсё, што Вы зрабілі для нас і Касцёла!

Жадаем Вам моцнага здароўя, душэўнага супакою, усмешкі на твары, каб у той парафіі, дзе працуеце цяпер, хапіла патрэбных сіл для здзяйснення планаў і задум. Няхай Вам у гэтым дапамагае Пан Бог.

Мы ўдзячныя Богу за такога цудоўнага святара, каторы вельмі шмат зрабіў для нашай парафіі.

Праз кіламетры адлегласці дасылаем Вам, паважаны ксёндз Іван, нашы шчырыя віншаванні і падзяку за непаўторную прыгажосць вакол касцёла, якая засталася для нас і для будучага пакалення.

Мы помнім, любім і молімся за Вас. Вашыя добрыя справы назаўсёды ў нашых сэрцах.

**Удзячныя вернікі з Дрысвят, Браслаўскі раён**



# Пра ролю эліт у гісторыі чалавецтва разважалі на фэсце ў Шаркаўшчыне

**14 верасня парафія ў Шаркаўшчыне адзначыла свята Узвышэння Святога Крыжа. Менавіта такі тытул носіць касцёл у мястэчку. Крыж з'яўляецца адным з галоўных сімвалаў хрысціянства і спадарожнічае чалавеку на працягу ўсяго жыцця.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст*; **Леанід Юрык**, *фота*

"Сёння мы дзякуем Богу за крыж нашага збаўлення, за тое, што з любові да кожнага з нас Езус аддаў сваё жыццё. Гэта сімвал нашай веры, якую мы стараемся практыкаваць", – прамовіў на самым пачатку пробашч парафіі кс. Віктар Сініцкі SCJ і шчыра прывітаў святароў і вернікаў, якія прыбылі на адпустовую ўрачыстасць.

Цэлебрацыю св. Імшы ўзначаліў кс. Эдуард Сінкевіч SCJ з Варапаева, а гамілію прамовіў канцлер курыі Віцебскай дыяцэзіі кс. канонік Віктар Місевіч.

"Мы святкуем і ўглядаемся ў крыж, на якім знаходзіцца наш Збаўца. З цягам часу ў некаторых людзей складаецца павярховае значэнне крыжа, траціцца веданне і разуменне, што адбылося на крыжы. Вернікі з глыбокай пашанай ставяцца да крыжа Езуса Хрыста, бо для нас ён вельмі знакавы. Калі мы разважаем над цярпеннямі і мукамі Хрыста, то тым больш хочацца дзякаваць за нашае адкупленне".

Далей святар прапанаваў прыгледзецца да крыжа і паразважаць над яго сімвалізмам.

Вертыкальная лінія ўказвае на неба – наш шлях куды трэба імкнуцца. Што такое Нябеснае Валадарства? Святы Тамаш Аквінскі падкрэслівае чатыры асноўныя моманты: бачанне Бога вельмі выразна і без перашкодаў, заўважанне, што Ён добры і прыгожы; праслаўленне Бога ў радасці; спаўненне ўсіх жаданняў чалавека; чалавек збаўлены бачыць, што ён там не адзін. Шчасце павялічваецца ў столькі разоў, колькі ён бачыць шчаслівых людзей у небе.



Гарызантальная лінія гаворыць, што я не адзін, побач мае суседзі, мае парафіяне. І важны позірк, якімі я на іх гляджу, думкі з якімі я прыходжу, словы, якія да іх прамаўляю. Наша хрысціянская супольнасць тут, на зямлі, з'яўляецца пропускам у Нябеснае Валадарства.

Затым кс. Віктар нагадаў гісторыю з'яўлення гэтага свята. Разважаючы над гістарычнымі момантамі свята, ён звярнуўся да пытання ролі асобы і элітаў у гісторыі чалавецтва. Святар узгадаў раман беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім", а менавіта ўрывак з легендай пра стварэнне свету. І, падсумоўваючы, дадаў: "Калі б не рашэнне імператара Канстанціна і яго маці, хто ведае, які быў бы лёс Касцёла і хрысціянства. Сёння кожны, хто з'яўляецца начальнікам, мусіць усвядоміць, што ад яго залежыць не толькі яго жыццё, але і іншых людзей. Гэта не толькі прадстаўнікі з райвыканкамаў, старшыні калгасаў, тыя, хто падпісвае паперы, ці іншыя, але і бацькі для дзяцей – гэта эліта. Будучыня беларускага народа і любога іншага знаходзіцца ў дзецях. Як мы іх выхоўваем? Таксама і пытанне да настаўнікаў у школе, ці з'яўляюцца яны аўтарытэтам сёння для сваіх вучняў. Гэтае пытанне адносіцца і да святароў, якія гуртуюць вакол сябе парафіяльныя супольнасці, там прамаўляюць казанні".

Напрыканцы святой Імшы адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, а ўрачыстая працэсія вакол касцёла завяршылася гімнам праслаўлення Te Deum і ўрачыстым бласлаўленнем.



# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Ці ёсць у жывёлаў душа і ці могуць яны ўваскрэснуць, калі прыйдзе канец свету?

*“Адкажыце, калі ласка, ці ёсць у жывёлаў душа? Што адбываецца з імі пасля смерці? Ці могуць жывёлы таксама быць уваскрошаныя напрыканцы свету да вечнага жыцця?”*

*Ян*

На пытанне адказвае **кс. Аляксей Ляшко**, афіцыял Біскупскага Суда ў Віцебску.

– “Хто ведае: ці дух сыноў чалавечых падымаецца ўгору, а ці дух жывёл апускаецца долу, у зямлю?” (Экл 3, 21) – такое пытанне задае аўтар кнігі Эклезіяста. І гэтае пытанне дастаткова часта паўстае таксама і перад намі.

26 лістапада 2014 г. на Генеральнай аўдыенцыі, разважаючы над жыццём пасля смерці, Папа Францішак сказаў: “Святое Пісанне вучыць нас, што выкананне гэтага цудоўнага плану не можа не паўплываць на ўсё тое, што нас акружае і што выйшла з думкі і сэрца Бога… Аднойчы мы зноў убачым нашых жывёл у вечнасці Хрыста. Неба адкрыта для ўсіх стварэнняў Бога”, – спасылаючыся на словы з Паслання святога апостала Паўла да Рымлянаў: “Што і само стварэнне вызвалена будзе з няволі тлення дзеля свабоды хвалы дзяцей Божых” (Рым 8, 21). Гэтыя словы Святога Айца ўзварушылі шмат людзей. На той момант у многіх часопісах выйшлі артыкулы з назвамі “Папа адчыніў дзверы для жывёл у неба”.

Разважаючы над словамі Святога Айца італьянскі тэолаг, прафесар Папскага ўніверсітэта ў Рыме Джанні Кальцані растлумачыў, што “будзе пераемнасць паміж гэтым светам і будучым, [але таксама] і пераўтварэнне. Справа ў тым, што мы не ўстане вызначыць баланс паміж гэтымі двума сітуацыямі. Таму я лічу, што мы не павінны ўкладаць у вусны Папы больш, чым ён кажа на самай справе”.

Дарэчы, словы Папы Францішка не былі нейкай навіной. Яшчэ Папа Павел VI, супакойваючы аднаго маленькага хлопчыка, які плакаў з прычыны смерці сабакі, сказаў: “Не перажывай, аднойчы мы зноў убачым нашых жывёл у вечнасці Хрыста”. І гэта ён пазней пацвердзіў на адной з Генеральных аўдыенцый у Рыме, кажучы: “Жывёлы – гэта самая маленькая частка Боскага стварэння, але аднойчы мы зноў убачым іх у Таямніцы Хрыста”.

Таксама і Папа Ян Павел II 10 студзеня 1990 г., падтрымліваючы тую ж лінію, сказаў, што “Боскі подых ёсць не толькі ў чалавека, але і ў жывёл”.

Папа Бэнэдыкт XVI меў іншы погляд. Ён прытрымліваўся больш традыцыйнага навучання. 14 студзеня 2008 г. ён прамовіў наступныя словы: “У той час як у іншых стварэнняў, якія не пакліканы да вечнасці, смерць азначае толькі канец існавання на зямлі, грэх стварае ў нас прорву, каторая рызыкуе паглынуць нас назаўжды, калі Айцец нябесны не падасць нам сваёй рукі”.

Святы Тамаш Аквінскі, святар і доктар касцёла, лічыў, што пачуццёвыя душы жывёл не з'яўляюцца самаіснымі, а таму яны і не маюць спецыфічных для разумнай душы дзеянняў, якія ажыццяўляюцца толькі самой душой, асобна ад цела – мысленне і жаданне (акт волі); усе дзеянні жывёл, як і многія дзеянні чалавека (акрамя мыслення і акта волі), ажыццяўляюцца з дапамогай цела. Таму душы жывёл гінуць разам з целам, тады як чалавечая душа – несмяротная, яна ёсць самае высакароднае ў стварэнай прыродзе. У жывёл і раслін ёсць цела, але іх душы належаць да найніжэйшага ўзроўню і таму смяротныя.

Катэхізіс Каталіцкага Касцёла (338-348) вучыць, што Бог Сам стварыў бачны свет ва ўсім яго багацці, разнастайнасці і парадку. Кожнае стварэнне валодае ўласцівымі яму дабрынёй і дасканаласцю. Пра кожную справу шасці дзён сказана: “І ўбачыў Бог, што гэта добра”. Розныя стварэнні, прыемныя Богу ва ўласцівай ім істоце, кожнае па-свойму адлюстроўвае прамень бясконцай мудрасці і дабрыні Божай. Таму чалавек павінен паважаць якасць, уласцівую кожнаму стварэнню, каб пазбегнуць бязладнага ўжывання рэчаў, зневажальнага да Стваральніка, якое прыводзіць за сабой дрэнныя наступствы для людзей і іх асяроддзя.

Узаемазалежнасць стварэння пажадана самім Богам. Сонца і месяц, кедр і палявая кветка, арол і верабей – карціна іх бясконцых адрозненняў і няроўнасцей азначае, што ні адно стварэнне не з'яўляецца самадастатковым. Яны існуюць толькі ў залежнасці, узаемна дапаўняючы і служачы адно аднаму.

Іерархія стварэння выказана ў парадку “шасці дзён”, якая ідзе ад меней здзейсненага да больш дасканалага, ад святла да чалавека. Бог любіць усё Сваё стварэнне і дбае пра ўсіх, нават пра малых птушак. Тым не менш Езус кажа: “...Вы вартыя больш за мноства вераб'ёў” (Лк 12, 7), а таксама: “Наколькі ж чалавек каштоўнейшы за авечку” (Мц 12, 12).

Чалавек з'яўляецца вяршыняй справы стварэння. Натхнёны Богам тэкст указвае на гэта, выразна адрозніваючы стварэнне чалавека ад любога іншага стварэння (Быц. 1, 26). Толькі чалавек створаны на вобраз і падабенства Божае і пастаўлены валадарыць над усім іншым стварэннем. Адным з уласцівасцяў гэтага вобраза з'яўляецца несмяротнасць душы.

Нягледзячы на тое, што Катэхізіс і кніга Быцця кажуць, што жывёлы і расліны былі створаны для функцыянавання чалавека, яны усё ж патрабуюць, каб іх паважалі і даглядалі як Божыя стварэнні, па прыкладзе таго, як гэта рабілі некаторыя святыя, такія, як святы Францішак Асізскі. Ён лічыў, што не толькі людзі, але і ўсе жывёлы з'яўляюцца братамі і сёстрамі. Ён ставіўся з любоўю да раслін і жывёл. Усюды ён бачыў Божую любоў да стварэння і нагадваў усім істотам, што трэба любіць свайго Стваральніка.

Да павагі і клопату пра ўсе жывыя стварэнні заклікае Папа Францішак у Энцыкліцы “Laudato si’”, прысвечанай клопату пра супольны дом. Папа заахвочвае паразважаць пра важнасць нашага супольнага дому і пра неабходнасць клопату пра яго. У другім нумары Папа кажа: “Мы прызвычаіліся думаць, што з'яўляемся ўладальнікамі і распарадчыкамі зямлі, якія маюць права яе рабаваць. Гвалт, які жыве ў зраненых грахом людскіх сэрцах, выяўляецца таксама праз хваробы зямлі, вады, паветра і жывых істот. Таму сярод найбольш занядбаных і дрэнна трактаваных знаходзіцца нашая прыгнечаная і спустошаная зямля, якая “стогне і нараджае ў пакутах” (Рым 8, 22). Мы забываемся, што самі паходзім з зямнога пылу (пар. Быц 2, 7).

“Штогод знікаюць тысячы відаў раслін і жывёл, якіх мы ўжо не зможам пазнаць, якіх ужо не змогуць убачыць нашыя дзеці. Большая колькасць гіне з прычыны пэўных людскіх дзеянняў. Праз нас тысячы відаў не будуць хваліць Бога сваім існаваннем і не будуць перадаваць нам сваю інфармацыю. Мы не маем на гэта права (33).



Падсумоўваючы дадзенае разважанне, можна прыйсці да пэўных вывадаў і адказаць станоўча, што жывёлы маюць душу. Аднак у адрозненні ад чалавека, іх душа – гэта не самастойная сутнасць, асобная ад цела. Прасцей кажучы, душа жывёл з'яўляецца смяротнай і згодна з навучаннем Касцёла, памірае разам з іх целам.

На пытанне, ці трапяць жывёлы ў жыццё вечнае, адказаць дастаткова складана. Зямны рай, у якім знайшлося месца і бязмоўным стварэнням, быў прадбачаннем нябеснага раю. Прарок Ісая, малюючы будучыню Валадарства Месіі, прарочыць так: “…Тады воўк будзе жыць разам з ягнём, і барс будзе ляжаць разам з казлянём; і цяля, і малады леў, і вол будуць разам, і малое дзіця будзе вадзіць іх. І карова будзе пасвіцца з мядзведзіхаю, і дзеці іх будуць ляжаць разам; і леў, як вол, будзе есці салому. І немаўля будзе бавіцца над нарою аспіда, і дзіця працягне руку сваю на гняздо змяі. І ня будуць рабіць ліха і шкоды на ўсёй святой гары Маёй, бо зямля будзе напоўнена спазнаннем Пана, як воды напаўняюць мора (Іс 11, 6-9).

Таксама і святы Павел, прарочачы пра будучы свет, кажа: “Стварэнне ж з надзеяй чакае адкрыцця сыноў Божых, бо стварэнне падпарадкавалася марнасці не добраахвотна, але праз таго, хто падпарадкаваў яго, у надзеі, што і само стварэнне вызвалена будзе з няволі тлення дзеля свабоды хвалы дзяцей Божых. Мы ж ведаем, што ўсё стварэнне разам стогне і нараджае ў пакутах ажно да цяперашняга часу. І не толькі яно, але і мы самі, якія маем пачатак Духа, і мы ў сабе стогнем, чакаючы ўсынаўлення, адкуплення цела нашага” (Рым 8, 19-23). Аднак гэты ўрывак айцы Касцёла тлумачаць па-рознаму.

Святы Аўгусцін (354-430 гг.) разумее пад стварэннем толькі чалавечы род. А, напрыклад, Сімяон Новы Тэолаг (949-1022 гг.) бачыць у словах апостала ўказанне на будучае абнаўленне, якое здзейсніцца над усімі стварэннямі ў свеце.

Як будзе на самай справе, для нас застаецца таямніцай. Аднак духоўна здаровы чалавек не можа не любіць усё тое, што створана Богам.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Ядвіга Цорах** *(Мілты)*, **Лаўрыновіч Е.В.** *(Мёры)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Елізавета Лебедзева** *(Бягомль)*, **Яніна Бруйко** *(Пашкі)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Станіслава Кавалёнак** *(Прусы)*, **Вільгельм Драгун** *(Вапапаева)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі)*, **Марыя Круковіч** *(Юркаўшчына)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Алена Канчанін** *(Нарач)*, **Галіна Касперовіч** *(Мураваная Ашмянка)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Марыя Канецкая** *(Маладзечна)*, **Рэгіна Ціхая** *(Камарова)*, **Марыя Лубінская** *(Мядзел)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Кліменціна Крымская** *(Наваполацк)*, **Данруся Зімодра** *(Маладзечна)*, **Папроцкі Е.С.** *(Ляхавічы)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Ніна Шпак** *(Друйск)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Аліцыя Лазоўская** *(Гродна)*, **Ядвіга Жолнер** *(Муцеўшчына)*, **Часлава Паўлючонак** *(Сцюдзяніца)*, **Іван Паўлючонак** *(Сцюдзяніца)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Соф’я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Давыдзенак Л.П.** *(Усце)*, **Ангеліна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Ніна Голенькая** *(Віцебск)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Яна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Зоя Шпак** *(Пагошча)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Юзэфа Малей** *(Сітцы)*, **Вера Шыкшнян** *(Гірэйшы)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Ядвіга Станкевіч** *(Віцебск)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Тэрэза Рулевіч** *(Браслаў)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Станіслаў Вышадка** *(Завараты)*, **Сцепаніда Лупач** *(Завараты)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя*
*“Каталіцкага Весніка”*

# ПАЗНАВАЙКА

*Бог ніколі не забывае пра людзей, якія б дрэнныя і грэшныя мы не былі. Бог любіць нас, шкадуе і заўсёды гатовы даравацы і выратаваць нас - толькі б мы пакаяліся і выправіліся.*

*Каб выправіць і выратаваць ізраільцян, Бог пасылаў пракрокаў. Такім чалавекам быў прарок Ілля. У гэтым нумары разам даведаемся яго гісторыю.*

**заданне №1**

Ці ведаеш, што азначала імя прарока Іллі? Каб даведацца, выпішы па парадку літары з зялёных лісточкаў дрэва.




АДКАЗ: ____________________

Аднойчы да цара Ахава прыйшоў прарок Божы Ілля і сказаў яму: «За вашыя грахі Бог пакарае вас голадам. Некалькі гадоў не будзе ні расы, ні дажджу, пакуль я не скажу». Ахаў разззлаваўся на Ілю. Бог загадаў прароку ўцячы, каб цар не забіў яго. Ілля схаваўся ў пячоры, каля якой працякаў ручай чыстай халоднай вады.

**заданне №2**

**Паглядзі, хто прыносіў прароку ежу і знайдзі 5 адрозненняў на малюнках.**





Але праз нейкі час ручай высах. Куды дзявацца прароку Іллі? Бог загадаў яму ісці ў горад Сарэпту да ўдавы, у якой ён будзе жыць нейкі час. Аднойчы захварэў сын удавы і памёр. Прарок Ілля маліўся Богу і ўваскрасіў сына ўдавы.

**заданне №3**

**Злучы кропкі і паглядзі як гэта адбывалася і размалюй.**



**заданне №4**

Самастойна прачытай урывак з Біблії 4-я кніга Царстваў 2, 1-13. Адкажы на пытанне, **што Ілля перадаў Елісею?**



Размалюй ілюстрацыю да канца і раскажы, што тут адбываецца?



**Памаліся разам з бацькамі ці сябрамі.**

**МАЛІТВА за нашу Бацькаўшчыну:**

Госпадзе, прашу цябе за нашу Беларусь, за супакой і еднасць паміж людзьмі, аб міры і любові адзін да аднаго. Благаславі нашу Бацькаўшчыну. Спашлі Духа Святога на слугаў Тваіх, якія кіруюць нашай краінай, каб яны згодна з Тваёю волю маглі мудра і справядліва кіраваць даверанымім людам. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн.

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Арфеева***



# РУЖАНЦОВЫ КАНГРЭС МАГІЛЁЎ 2.10.2021



**Дарагія браты і сёстры! Ужо стала добрай традыцыяй, што на пачатку кастрычніка, асабліваг Марыйнага месяца, па ініцыятыве айцоў-дамініканаў у магілёўскай катэдры адбываецца Ружанцовы кангрэс.**

Мэта сёлетняга V Ружанцовага кангрэса (як і мінулых) – паглыбленне духоўнай і інтэлектуальнай фармацыі вернікаў, якія моляцца на ружанцы і хочуць адкрываць тэалагічныя глыбіні, змешчаныя ў яго таямніцах.

2 кастрычніка сустрэча пройдзе пад дэвізам “Плыві на глыбіню”: сям’я, Святое Пісанне, ружанец і адарацыя.

Запрашаем прыняць удзел у кангрэсе асабліва тых вернікаў, якія належаць да ружанцовых колаў.

**Праграма**

9.30 – 10.15 – рэгістрацыя ўдзельнікаў;

10.20 – адкрыццё кангрэса;

10.30 – 11.10 – даклад **айца Паўла Мажэйкі OP** “Айцец Яцэк Варанецкі. “Паўната малітвы”, частка II”;

11.15 – 11.55 – даклад **сястры Чаславы Навіцкай USJK** “Скарб любові: біблійныя медытацыі св. Уршулі Ледухоўскай да 20 таямніцаў Ружанца”;

*** пытанні да дакладчыкаў, дыскусія, размова;

12.15 – 13.00 – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, святы Ружанец;

13.00 – 13.50 – абед;

14.00 – 14.40 – даклад **айца Рамана Шульца OP** “Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту з Марыяй у школе святога Альфонса Марыі Лігуоры”;

14.45 – 15.10 – даклад **спадарыні Алены Валаховіч** “Зэлія і Людвік Мартэн – святыя бацькі святой Тэрэзы з Лізьё. “Якія прагнуць неба”;

*** пытанні да дакладчыкаў, дыскусія, размова;

15.30 – 15.55 – перапынак;

16.00 – 16.30 – сведчанні аб пладах ружанцовай малітвы і папярэдніх кангрэсаў;

16.35 – падрыхтоўка да Літургіі;

17.00 – Эўхарыстыя.

Арганізатары просяць паведаміць пра свой удзел у кангрэсе **да 25 верасня.** Рэгістрацыя абавязковая. Дастаткова пазваніць або даслаць смс-паведамленнем інфармацыю пра сябе: імя, прозвішча, горад, назва парафіі, колькасць асобаў, якія будуць удзельнічаць у кангрэсе, нумар тэлефона. Таксама просім паінфармаваць, калі штосьці зменіцца і вы не прыедзеце на мерапрыемства. Для зарэгістраваных удзельнікаў кангрэса рыхтуецца ў падарунку чатыры кніжкі.

Мы з радасцю чакаем вас і вашых блізкіх. Просім таксама аб малітве ў інтэнцыі кангрэса.

Адрас: г. Магілёў, катэдра Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Станіслава (вул. Камсамольская, 4)

**Кантакты:**
**а. Раман Шульц OP**:
тэл. **+37529 291-92-11**;
***e-mail:*** *schulzop@gmail.com*



# У Навагрудку адбудзецца курс Абаронца веры *(Fidei Depositum)*

**Дадзены курс разлічаны на ўсіх хрысціянаў, а асабліва католікаў, якія жадаюць паглыбіць свае веды ў галіне гісторыі Касцёла, фундаментальнага багаслоўя, новых рэлігійных рухаў, сучасных маральных праблемаў, а асабліва ў гендэрнай ідэалогіі і акультызме.**

Курс мае на мэце паглыбіць хрысціянскі светапогляд вернікаў што да распаўсюджвання розных антыхрысціянскіх сістэмаў і плыняў у грамадстве і дапамагчы праз набытыя веды супрацьстаяць духу, спакусам гэтага свету. Увесь курс складаецца з сямі сустрэч, кожная сустрэча-з’езд будзе адбывацца раз на месяц у Навагрудку пры касцёле святога Міхала Арханёла.

Курсы даюць магчымасць удзелу ў дыскусійных сустрэчах з цікавымі людзьмі. Неад’емнай часткай курса з’яўляюцца таксама супольная малітва, св. Імша і адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту.

**Сустрэчы ў 2021 годзе:** 24-25 верасня, 22-23 кастрычніка, 5-6 лістапада, 3-4 снежня.

**Сустрэчы ў 2022 годзе:** 28-29 студзеня, 25-26 лютага, 25-26 сакавіка.

**Выбраныя тэмы:**

***Гісторыя Касцёла:*** Крыжовыя паходы, Інквізіцыя, Контрэфармацыя, Багацці Касцёла, Беспамылковасць Рымскага Пантыфіка і некаторыя іншыя.

***Фундаментальная тэалогія:*** Верагоднасць Божага Аб’яўлення, Верагоднасць Касцёла, паняцце цуду.

***Новыя рэлігійныя рухі:*** Новыя пратэстанцкія плыні, рэлігійны сінкрэтызм, сучасныя секты.

***Маральнае багаслоўе:*** маральны індэферэнтызм, праявы секулярнага грамадства, гендэрная ідэалогія і іншыя.

***Філасофія:*** вытокі сучасных ідэалогій, праявы гэтых ідэалогій у грамадстве, культура, літаратура, СМІ.

***Багаслоўе духоўнасці:*** асновы духоўнага жыцця хрысціяніна.

***Небяспекі акультызму.***

На завяршэнне курса кожны атрымае дыплом Fidei Depositum.

Запіс па тэл.:
+37544 77-199-83 Марына, альбо праз e-mail: *nowogrudec@gmail.com*




# Ахвяруй на “Каталіцкі Веснік”

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі

*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў

(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)

2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.

3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з’яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага апаратара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на “Каталіцкі Веснік”, Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – А; 2 – Б; 3 – Б; 4 – А; 5 – В; 6 – В; 7 – А; 8 – Б; 9 – А; 10 – В


**Каталіцкі ВЕСНІК**
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:**
рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 4785

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3700 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 22.09.2021 г. у 13.50

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь